



# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

16 студзеня 2015 года №3 **(1029)**




## НАВІНЫ РЭГІЁНА

### Адключылі аналагавае тэлевяшчанне

**МЯДЗЕЛ, СМАРГОНЬ.** Ад 15 студзеня на радыётэлевізійных перадаючых станцыях у Целяках (Мядзельскі раён) і Смаргоні адключылі аналагавыя тэлевізійныя перадатчыкі дэцыметровага дыяпазону хваляў. Зрабілі гэта ў адпаведнасці з графікам паэтапнага адключэння аналагавага тэлевізійнага вяшчання, паведамляе Міністэрства сувязі і інфарматызацыі Беларусі. Глядзець абавязковы агульнадаступны пакет тэлеканалаў можна ў лічбавым стандарце DVB-T – на тэлевізары з падтрымкай гэтага стандарту або з дапамогай лічбавай прыстаўкі. У Целяках трансляцыю ажыццяўляюць на частаце 44 тэлеканала, у Смаргоні – 59 тэлеканала.

### Мастакі пакажуць "Вілейскія далягляды"

**ВІЛЕЙКА.** У зале выстаў імя Сілівановіча краязнаўчага музея 23 студзеня адбудзецца адкрыццё выставы "Вілейскія далягляды" творчай суполкі мастакоў "Адраджэнне". "На выставе знойдзе сваё месца тэматыка Першай сусветнай вайны, лінія фронту якой праходзіла па вілейскай зямлі", – распавяла навуковы супрацоўнік музея **Надзея Аўдзей**. – "Ёсць сярод твораў і вобраз вялікага мастака-рэфарматара **Уладзіслава Страмінскага**, які ў Вілейцы пераважу актыўны перыяд сваёй творчасці". Як ганаровы госць суполкі ў выставе ўдзельнічае мастачка **Вольга Гацко**. Пачатак – а 15 гадзіне.

### Можна выбраць новыя кнігі

**МАЛАДЗЕЧНА.** Апоўдні ў нядзелю, 18 студзеня, адбудзецца парад новых кніг у канферэнц-зале бібліятэкі "Верасок". На ім прапануюць новыя кнігі, якія паступілі на абанемент цэнтральнай раённай бібліятэкі. Пра гэта паведаміла **Таццяна Закрэўская**, загадчыца аддзела абслугоўвання.

**Аддзел інфармацыі.**



# Футбалісты павесяць буцы на цвік?

## Ідзе жорсткае абмеркаванне лёсу ФК "Смаргонь"

**СМАРГОНЬ. Напрыканцы мінулага тыдня заўзятары "Смаргоні" агучылі інфармацыю, што футбольны клуб можа пазбавіцца фінансавання на наступны сезон і быць ліквідаваны.**




Фота з афіцыйнай старонкі ФК "Смаргонь".

**Фанаты не хочуць мірыцца з тым, што каманда, якая заняла чацвертае месца ў першай лізе, можа проста перастаць існаваць.**

— Горад маленькі, чуткі разыходзяцца хутка, – кажа заўзятар "Смаргоні" **Арцём Войтка**. – Адразу ж вырашылі, што трэба пісаць петыцыю, каб захаваць клуб. На гэтым тыдні збіраемся напісаць. Мяркую, маладзечанскія фанаты нам дапамогуць.

Нагадаем, што летась заўзятары "Маладзечна-2013" пісалі петыцыю з просьбай знайсці сродкі і даць шанец камандзе на ўдзел у сезоне 2014 года. Атрымалася.


**ФК "Маладзечна-2013" ліквідуецца. Чытайце пра гэта на 22-й старонцы.**


### "Няўжо каманда не выкараскаецца"

Арцём гаворыць, чаму клуб павінен існаваць:

– Навошта тады ў нас спартшкола, навошта пабудавалі новы стадыён са штучным пакрыццём? Каманда існуе з 1987 года. Яна была ў розных сітуацыях, няўжо ж цяпер не выкараскаецца?

### – Мэта – адваяваць удзел клуба ў першай лізе ці хаця б захаваць?

– Хочам адстаяць клуб як прафесійную каманду ўзроўню першай лігі. Каб ён развіваўся, як і раней. Але калі не атрымаецца, то хаця б удалося проста захаваць клуб, і каб гулялі свае выхаванцы.

**– У канцы месяца мы плануем сабрацца ўсім нашым фанацкім калектывам. І любы ахвочы таксама можа прыйсці на сустрэчу.**

Заўзятар **Яўген** дадае:

– На сустрэчы хочам абмеркаваць праблему і вырашыць, як паступіць. Для пачатку плануем схадзіць да кіраўніцтва клуба і ўсё ўдакладніць. Нагадаю, што наш клуб заняў у мінулым сезоне чацвертае месца ў першай лізе!

### "Добры басейн і каток больш патрэбныя"

Тым часам жыхары горада на адным з інтэрнэт-форумаў актыўна абмяркоўваюць сітуацыю. Часам жорстка, з пераходам на асобы.

Аргументы заўзятараў прыводзілі вышэй. Прывядзём іншыя меркаванні.

Карыстальнік **baspru** піша: "Нарэшце зразумелі, што мільёны і мільёны, выдаткаваныя на клуб, можна выдаткаваць на нешта больш вартае. Інвентар для школ і спартыўных школ, рамонт басейна, спартыўныя пляцоўкі ў кожным двары, развіццё (нармальнае фінансаванне) дзіцяча-юнацкага футбола для пачатку. Хаця, як здаецца, не дадуць сюды, і да вышэйсказанага таксама не дойдзе нічога".

**Juljetta** прызнаецца: "Да футбола ніякага дачынення не маю. Пра ФК "Смаргонь" ведаю, што ён у горадзе ёсць. Маё асабістае меркаванне, што ён можа быць. Але марнаваць на гэта грошы бюджэту і прадпрыемстваў раёна, мякка кажучы, не варта. Хай моцна ахвочыя спонсары падтрымліваюць. Тут я пагаджуся, што добры басейн і каток намнога больш патрэбныя гораду".

Мы звярнуліся ў футбольны клуб "Смаргонь" з просьбай пракаментаваць сітуацыю. На момант выхаду артыкула адказу яшчэ не было. Будзем сачыць за развіццём падзей.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

### У камандаў з Гродзеншчыны – вялізныя праблемы

Старшыня Гродзенскага гарвыканкама **Мечыслаў Гой** на нарадзе па выніках выступлення "Нёмана" прыгадаў каманды з Гродзеншчыны, якія выступаюць у першай і другой лігах:

– У мастоўскага "Нёмана" ў другой лізе, у "Слоніма" і "Смаргоні" цяпер вялізныя праблемы.

Да пераезду ў Гродна Мечыслаў Гой узначальваў Смаргонскі райвыканкам.

**Паводле football.by.**

ЛАД ЖЫЦЦЯ

# Эколагі расказвалі, куды несці адходы

**МАЛАДЗЕЧНА. Прэзентацыя “Зялёнай карты” ў Маладзечне адбылася 12 студзеня ў бібліятэцы сямейнага чытання “Верасок”.**

“Зялёная карта”, або Greenmap.by – карта ў інтэрнэце, дзе нанесеныя пункты збору другасных рэсурсаў, небяспечных адходаў і непатрэбных рэчаў.

**Налічвае каля тысячы пунктаў з інфармацыяй пра тое, куды аднесці адходы, а таксама непатрэбныя, але добрыя рэчы: вопратку, кнігі, мэблю, бытавую тэхніку.**

Карта ахоплівае 18 беларускіх гарадоў. У нашым рэгіёне карта зробленая для Маладзечна і Мядзела.

Сабраць і занесці ў базу інфармацыю аб горадзе дапамагаў маладзечанец **Канстанцін Чыкалаў**.

– У Маладзечне на карце нанесеныя 15 пунктаў збору адходаў і рэчаў, – распавяла каардынатар праекта “Зялёная карта” Цэнтра экалагічных рашэнняў **Марыя Сума**. – Цяпер валанцёры дапаўняюць яе. Пры гэтым у жыхароў горада ёсць магчымасць правільна ўтылізаваць усе віды адходаў.

Марыя Сума заклікала маладзечанцаў, каб яны ўдзельнічалі ў развіцці праекта. Заходзілі на карту, каментавалі, наколькі добра працуе той ці іншы пункт, дабаўлялі новыя.

Для “Зялёнай карты” створаныя мабільныя дадаткі для аперацыйных сістэм Андроід і iOS.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



Фота tani.md.

Куды несці адходы, каб як мага менш забруджваць экалогію, можна даведацца з “зялёнай карты” (www.greenmap.by).

ПАМЯЦЬ

## Пайшоў з жыцця дырэктар аўтапарка Яўстафій Каравай

**МАЛАДЗЕЧНА. Развітанне з ім прайшло ў панядзелак, 12 студзеня.**



Фота apkmolod.by

Яўстафій Каравай.

Яўстафія Іванавіча пахавалі на могілках у Хажове, паведамілі яго калегі.

Яўстафій Каравай пайшоў з жыцця ў суботу, 10 студзеня. Летась яму споўнілася 60 год.

Ён нарадзіўся ў вёсцы Бубны Вілейскага раёна. Пасля Беларускага політэхнічнага інстытута працаваў старшым майстрам у аўтакамбінаце ў Вілейцы. Праз год стаў начальнікам гаража ў аўтапарку.

У 1983 годзе яго перавялі ў Маладзечанскі аўтапарк №4 галоўным інжынерам.

У 2005 годзе прызначылі на пасаду дырэктара.

У яго засталіся жонка, двое дзяцей, унукі.

Газета “Транспортный вестник” летась прысвяціла яму артыкул, прымеркаваны да 60-годдзя.

У ім адзначаецца, што пад кіраўніцтвам Яўстафія Каравая пачалася рэканструкцыя вытворчых корпусаў аўтапарка, капітальны рамонт аўтавакзала ў Маладзечне і пабудова новага вакзала ў курортным пасёлку Нарач. У 2000-х гадах сур’ёзна абнавіўся рухомы састаў.

Калегі і блізкія смуткуюць з прычыны яго заўчаснага зыходу з жыцця і спачуваюць родным і блізкім.

**Аддзел інфармацыі.**

ГАСПАДАРКА

## Валожынскі і Мядзельскі раёны ўвайшлі ў спіс неспрыяльных для вытворчасці сельгаспрадукцыі

**Урад пастановай 1277 ад 31 снежня 2014 года вызначыў пералік раёнаў Беларусі, якія адносяцца да неспрыяльных для вытворчасці сельскагаспадарчай прадукцыі.**

– Гэта градацыя неабходная для ацэнкі эфектыўнасці сельгасвытворчасці розных рэгіёнаў і фарміравання прынцыпаў размеркавання і аказання дзяржаўнай падтрымкі суб’ектам АВК, – пракаментавалі дакумент у прэс-службе Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання.

Агульнапрынятай назвалі практыку, калі тыя рэгіёны, у якіх вядзенне сельгасвытворчасці з’яўляецца больш затратным у мэтах выраўноўвання ўмоў гаспадарання і даходнасці могуць прэтэндаваць на атрыманне дзяржаўнай падтрымкі ў павышаных памерах. А такія ўмовы могуць узнікаць з аб’ектыўных ці нейтральных прычын: бедныя землі, менш доўгі вегетацыйны перыяд, моцныя маразы без снежнага покрыва зімой, ранішнія замаразкі вясной, заліўныя дажджы і засуха летам і г.д.

У пералік уключаны 62 раёны. Больш за ўсё неспрыяльных для сельскагаспадарчых работ раёнаў у Віцебскай і Гомельскай абласцях (па 18), Магілёўскай (10). У спіс таксама ўвайшлі: Бярэзінскі, Валожынскі, Крупскі, Лагойскі, Мядзельскі, Старадарожскі раёны Мінскай вобласці; Дзятлаўскі, Іўеўскі, Свіслацкі раёны Гродзенскай вобласці; Ганцавіцкі, Драгічынскі, Іванаўскі, Лунінецкі, Маларыцкі, Пінскі, Столінскі раёны Брэсцкай вобласці.

**Паводле БелаПАН.**

**ГАЗИФИКАЦИЯ ПОТРЕБИТЕЛЬСКИХ КООПЕРАТИВОВ МОЛОДЕЧНЕНСКОГО РАЙОНА В 2015 году**

Для газификации природным газом эксплуатируемого жилищного фонда граждан Молодечненскому району выделены средства в размере 1 505 млн. рублей на финансирование в 2015 году газификации природным газом эксплуатируемого жилищного фонда граждан в рамках Указа Президента Республики Беларусь от 02.06.2006 года № 368.

Решением Молодечненского районного исполнительного комитета от 06.01.2015г. № 5 утвержден Перечень объектов строительства газораспределительных систем на 2015г. по Молодечненскому району

| № п/п | Наименование кооператива, населенного пункта | Протяжённость, км | Год выполнения | Виды работ | Средства местного бюджета (субвенций), млн.руб (70% стоимости работ) |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | ПК «Садок-Газ» д. Домаши | 5,0 | 2015 | строительство | 1 505,0 |
| | ИТОГО | | | | 1 505,0 |



Калаж «РГ».

За першы дзень судовага пасяджэння юрыст "Вялес-Міта" падаў чатыры хадайніцтвы.

● ГРАМАДСТВА

# Пачаўся суд "Экадома" супраць "Вялес-Міта"

**МАЛАДЗЕЧНА. ТАА "Вялес-Міт" не даў патрэбнай дакументацыі, каб зрабіць незалежную экалагічную экспертызу па праекце пабудовы свінакомплексаў на сто тысяч галоў свіней у Маладзечанскім раёне. Таму грамадскае аб'яднанне "Экадом" падало справу ў суд.**

Ён пачаўся 14 снежня ў дзесяць гадзін раніцы. Інтарэсы "Экадома" прадстаўляў юрыст **Сяргей Магонаў**. Інтарэсы "Вялес-Міта" – **Віктар Пташнік**. Вёў пасяджэнне суддзя **Сіняўскі**.

### "Вялес-Міт" падаў некалькі хадайніцтваў

Паводле першага, ён сцвярджаў, што Сяргей Магонаў не можа прадстаўляць інтарэсы грамадскага аб'яднання "Экадом". Бо не з'яўляецца яго работнікам, а толькі прадстаўляе інтарэсы на судзе.

Суд аб'явіў перапынак, каб прыняць рашэнне. Паўтары гадзіны прысутныя чакалі. Паводле рашэння суда, Сяргею Магонаву дазволілі прадстаўляць інтарэсы "Экадома".

### Справу не накіруюць у эканамічны суд

Прадстаўнік "Вялес-Міта" падаў другое хадайніцтва. У ім гаварылася, што не ў кампетэнцыі судоў агульнай юрысдыкцыі разглядаць справу "Экадома" супраць "Вялес-Міта". Юрыст спаслаўся на тое, што ў аснове спрэчкі гаспадарчая дзейнасць.

Сяргей Магонаў запярэчыў, што гаспадарчая дзейнасць толькі ў аснове дзейнасці аднаго з бакоў. Другі бок абараняе правы грамадскасці па пытаннях навакольнага асяроддзя.

А палове чацвертай суд вынес рашэнне, што справа будзе разглядацца ў судзе агульнай юрысдыкцыі. Яна не будзе накіраваная ў эканамічны суд.

Прадстаўнік "Вялес-Міта" падаў трэцяе хадайніцтва аб тым, што "Экадом" дзейнічае ад імя трэціх асоб, а "Вялес-Міт" не даваў на гэта згоду.

Сяргей Магонаў запярэчыў:

– "Экадом" – грамадскае аб'яднанне, таму можа прадстаўляць інтарэсы грамадскасці.

### Хадайніцтвы "Вялес-Міта" адхілілі

Да чатырох гадзін дня суд выдаліўся для прыняцця рашэння. Паводле трэцяга хадайніцтва, грамадскаму аб'яднанню "Экадом" дазволілі выступаць на судзе як прадстаўніку інтарэсаў грамадскасці.

Юрыст "Вялес-Міта" падаў яшчэ адно хадайніцтва. У ім сказана, што ёсць недакладнасць у падпісанні даверанасці юрысту Сяргею Магонаву. Яе падпісаў дырэктар, аднак, паводле закона, яе павінна падпісаць калегія "Экадома".

А палове шостай папярэдняе судовае пасяджэнне скончылася. Усе хадайніцтвы, прадстаўленыя юрыстам ТАА "Вялес-Міт", суд адхіліў. Напрыканцы суд высветліў пазіцыі абодвух бакоў.

Наступнае судовае пасяджэнне пройдзе 22 студзеня а дзясятай гадзіне.

**Зоя ХРУЦКАЯ, Галіна СІНІЦА.**

● НАШЫ ГРОШЫ

## Бюджэт раёна на 2015 год будзе прыкладна такім, як у 2014

**МАЛАДЗЕЧНА.** Начальнік фінансавага аддзела Маладзечанскага райвыканкама **Таццяна Варывончык** расказала пра лічбы раённага бюджэту на 2015 год.

За 2014 год раённы бюджэт атрымаў 904,4 мільярда рублёў даходаў.

Яшчэ ў 2015 годзе 392,1 мільярда рублёў складуць бязвыплатныя паступленні.

У выніку на гэты год раён мае адзін трыльён 296,5 мільярда рублёў у бюджэце. У параўнанні з мінулагоднім бюджэтам у адзін трыльён 185 мільёнаў рублёў.

12,4 мільярда рублёў сёлета пойдуць на працяг рамонту кацельні ў Радашкавічах. 13 мільярдаў выдаткуюць на планавае будаўніцтва дома для тых, каго павінны перасяліць з трухлявага жылля.

**Наталля ТУР.**

● ЦЭНТР ГІГІЕНЫ І ЭПІДЭМІЯЛОГІІ

## За парушэнні аштрафавалі гаспадароў крамаў "Сэканд Хэнд"

**МАЛАДЗЕЧНА.** Падчас аператыўнай праверкі Маладзечанскага занальнага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі заўважылі парушэнні санітарнага заканадаўства.

Да адміністрацыйнай адказнасці прыцягнулі дзевяць службовых асоб, штраф склаў амаль дзевяць мільёнаў рублёў. Вынеслі сем прадпісанняў аб спыненні дзейнасці да выпраўлення парушэнняў.

Праверылі дзевяць гандлёвых арганізацыях, у тым ліку пяць прадпрымальнікаў, якія ўвозяць і прадаюць патрыманыя рэчы.

**Міхаіл МІХАЛЕВІЧ,**
**доктар-гігіеніст, загадчык аддзялення камунальнай гігіены, нагляду і кантролю за гігіенічнай бяспекай тавараў народнага спажывання.**




| Курсы валют НБ РБ | 8.01 | 15.01 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 12 800,00 | **15 010,00** |
| Еўра | 15 300,00 | **17 710,00** |
| Злоты | 3 552,00 | **4 113,68** |
| Расійскі рубель | 209,50 | **228,50** |
| Грыўня | 809,18 | **960,86** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне** | | |
| Еўра | 15800/15605 | **17800/18060** |
| Долар ЗША | 13200/13055 | **15150/15310** |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 8.01 | 14.01 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 139900 | **138900** |
| Сасіскі, 1 кг | 53750 | **58900** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 28900 | **26500** |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | 38600 | **39900** |
| Селядзец, 1 кг | 36400 | **37900** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 104000 | **114000** |
| Рыс, 0,9 кг | 12600 | **10000** |
| Грэчка, 0,8 кг | 13000 | **9500** |
| Яйкі курыныя, 1 дзясятак | 14000 | **14000** |
| Алей "Масловія" | 17500 | **20000** |
| Маянэз, 200 г | 6100 | **4000** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 12500 | **14800** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 35000 | **33000** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 12500 | **11600** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 5500 | **6500** |
| Капуста, 1 кг | 5500 | **5500** |
| Морква, 1 кг | 5800 | **5500** |
| Буракі, 1 кг | 4500 | **6500** |
| Лімоны, 1 кг | 24900 | **24900** |
| Апельсіны, 1 кг | 17900 | **19500** |
| Мандарыны, 1 кг | 19900 | **16500** |
| Памідоры, 1 кг | 24500 | **29900** |
| Агуркі, 1 кг | 27000 | **34900** |
| Перац, 1 кг | 38000 | **38000** |
| Вінаград, 1 кг | 27500 | **26000** |
| Бананы, 1 кг | – | **17300** |
| Хурма, 1 кг | 25900 | **22900** |
| Яблыкі, 1 кг | 9900 | **11500** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 24500 | **25900** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | – | **15000** |
| Масла, 1 кг | – | **100000** |
| Тварог, 1 кг | – | **50000** |
| Бульба, 1 кг | – | **–** |
| Сала, 1 кг | 100000 | **100000** |
| Яйкі, 1 дзясятак | – | **25000** |
| Мёд, 0,5 л | 50000 | **50000** |

КРЫМІНАЛ

# Праламаў скронь аб тратуар

## 17-гадовы мінчанін падняў і кінуў на дарогу маладзёна

**ВІЛЕЙКА. Каля гадзіны ночы 28 снежня каля кінатэатра "Мір" у Вілейцы здарыўся канфлікт. У выніку 17-гадовы мінчанін падняў 23-гадовага маладзёна і кінуў на тратуар. Малады чалавек ударыўся галавой.**

Пацярпелага шпіталізавалі. У яго – пералом правай скроневай косці і разрыў барабаннай перапонкі вуха.

Юнака неўзабаве затрымалі, паведаміў часовы выканальнік абавязкаў начальніка Вілейскага райаддзела Следчага камітэта **Яўген Мягкоў.**

Узбудзілі крымінальную справу за наўмыснае прычыненне цяжкага цялеснага пашкоджання.

Яно караецца абмежаваннем волі на тэрмін ад трох да пяці год або пазбаўленнем волі на тэрмін ад чатырох да васьмі год.

Раней юнака ўжо судзілі за рабаванне.

**Аддзел інфармацыі.**



Фота instaflux.com.

**Ад удару аб тратуар у маладзёна пералом скроневай косці і разрыў барабаннай перапонкі вуха. На фота кадр з баевіка "Бой без правілаў" (2009 год).**

ЗДАРЭННІ

### Айчым ударыў нажом у грудзі пасынка

**МЯДЗЕЛ.** Удзень 9 студзеня ў Мядзельскую цэнтральную раённую бальніцу са свайго дома даставілі і шпіталізавалі 40-гадовага жыхара вёскі Чарэмшыцы Занарацкага сельсавета. У мужчыны было пранікальнае раненне грудной клеткі.

Следча-аператыўная група ўстанавіла, што каля 16 гадзін яго ў сварцы ўдарыў нажом у грудзі нецвярозы 66-гадовы айчым. Пражывалі сумесна.

Мужчыну затрымалі. Узбудзілі крымінальную справу за наўмыснае прычыненне цяжкага цялеснага пашкоджання.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

### Жанчына распаліла печку, і загарэўся дом

**МЯДЗЕЛ.** Пасля 18 гадзін 7 студзеня мядзельскім выратавальнікам паступіла паведамленне, што гарыць жылы дом у Крывічах.

Жанчына распаліла печку і выйшла на двор упраўляцца па гаспадарцы. Калі вярталася, убачыла, што з-пад даху ідзе дым.

У пакой, дзе печка, гаспадыня зайсці ўжо не змагла: ён быў поўны дыму.

Яна пабегла да суседзяў і выклікала выратавальнікаў, расказаў інжынер інспекцыі нагляду і прафілактыкі райаддзела па надзвычайных сітуацыях **Дзяніс Малько**.

Тыя хутка прыехалі і патушылі загаранне: у Крывічах якраз знаходзіцца пажарны аварыйна-выратавальны пост.

У выніку ў доме выгарэў пакой, прагарэла перакрыцце.

### Ад катла загарэлася лазня

**ВІЛЕЙКА.** А палове на шостую вечара 10 студзеня вілейскім выратавальнікам паведамілі пра загаранне ў вёсцы Ілья. Там з-пад даху лазні ішоў дым.

Яго заўважылі гаспадары, калі выйшлі на вуліцу.

Спрабавалі патушыць самі – не ўдалося. Выклікалі выратавальнікаў.

Калі тыя прыехалі, агню моцнага не было. У выніку ў парылцы згарэў невялікі кавалак сцяны за катлом.

Над ім абгарэла столь, расказаў інспектар інспекцыі нагляду і прафілактыкі райаддзела па надзвычайных сітуацыях **Андрэй Балаш**.

Як мяркуецца, да пажару прывяло тое, што кацёл размяшчаўся блізка да сцяны. Яна нагрэлася і загарэлася.

### Вецер сарваў шыфер са сховішча для агародніны ў Любані

**ВІЛЕЙКА.** У Любані моцны вецер пашкодзіў дах будынка сховішча для агародніны. Паведамленне пра гэта паступіла ў цэнтр аператыўнага кіравання райаддзела па надзвычайных сітуацыях пасля апоўдня 13 студзеня.

**Са сховішча для агародніны сарвала шыфер на плошчы 200 квадратных метраў, пашкоджаная крохвенная сістэма на такой жа плошчы.**

Людзі не пацярпелі, паведамілі ў райаддзеле па надзвычайных сітуацыях.

Сховішча для агароднін належыць таварыству "Новая Любанія".

**Аддзел інфармацыі.**

### Сёлета адбыліся два ДТЗ са смяротным зыходам

**МАЛАДЗЕЧНА.** Ад 10 да 13 студзеня пройдзе спецыяльная акцыя "Пешаход".

У межах яе супрацоўнікі міліцыі прымуць меры па зніжэнні колькасці аварый з удзелам пешаходаў.

На пачатку года адбыліся два ДТЗ са смяротным зыходам. Пешаходы пераходзілі дарогу па пешаходным пераходзе на недазволены сігнал святлафора.

**Дзяржаўтаінспекцыя нагадвае, што пешаходы ў цёмны час сутак павінны быць з флікерамі.**

Калі на праезнай частцы ці побач з ёй вы заўважылі нецвярозага чалавека, паведамляйце пра гэта па тэлефоне **(80176) 771656** або **102**.

**Паводле начальніка аддзела ДАІ Маладзечанскага РАУС маёра міліцыі Дзмітрыя ЮРКЕВІЧА.**

### Паменшала пажараў і ахвяраў

**ВІЛЕЙКА.** Летась на тэрыторыі Вілейскага раёна адбылося 48 пажараў, загінулі чатыры чалавекі.

У параўнанні з 2013 годам, ахвяраў стала менш – пазалетась загінула пяць чалавек.

Колькасць пажараў зменшылася на 19%, паведамляе mchs.gov.by.

**Аддзел інфармацыі.**

СЛЕДЧЫ КАМІТЭТ

### Шукаюць сведкаў аварыі, у якой збілі пешахода

**МАЛАДЗЕЧНА.** Следчы камітэт просіць адгукнуцца сведкаў і відавочцаў аварыі, якая адбылася ў 8:30 у сераду, 24 снежня.

Аўтамабіль ВАЗ-21063 (белы кузаў, з надпісам "Бяспека руху" па баках і аранжавым проблісковым маячком) рухаўся па вуліцы Дудко з боку Гарадоцкай на Фестывальную. Каля дома №2 кіроўца наехаў на пешахода, які атрымаў цяжкія цялесныя пашкоджанні.

Пераканаўча просім сведкаў патэлефанаваць па нумары **(80176) 77-04-69** ад 9 да 18 гадзін у рабочыя дні ці звярнуцца ў кабінет 211 па Прытыцкага, 23.

### У Насілаве скралі жаночы ровар

**МАЛАДЗЕЧНА.** Невядомы ў перыяд ад 18:00 9 снежня да 6:50 10 снежня з падвальнага бокса №2 дома №13 па вуліцы Гастэлы ў Насілаве скраў жаночы ровар "Аіст" з сіняй рамай.

### Шукаюць скрадзены ноўтбук

Невядомы ў перыяд часу ад 13 да 16 гадзін 31 лістапада скраў ноўтбук "HP g6-2165sr" з кватэры №47 дома №28 па вуліцы Багдана Хмяльніцкага ў Маладзечне.

Пераканаўча просім, калі вы штосьці ведаеце пра здарэнні, паведаміце па тэлефоне **(80176) 58-07-83** ад 9 да 18 гадзін у рабочыя дні.

**Паводле паведамлення Маладзечанскага райаддзела Следчага камітэта.**

УВАГА! ВЫШУК

### Знік у навагоднюю ноч

**МАЛАДЗЕЧНА.** Маладзечанскі райаддзел міліцыі шукае зніклага **Аляксандра Генадзевіча Янкоўскага.**



Ён нарадзіўся 27 верасня 1965 года (49 год). Жыве ў Вязыньцы.

31 снежня пайшоў з дому, і дагэтуль месца яго знаходжання невядомае.

Прыкметы: на выгляд 50-52 гады, рост каля 175 сантыметраў, хударлявы. Шэрыя вочы, светла-русыя валасы, каротка падстрыжаны.

Як быў апрануты, невядома.

Пераканаўча просім, калі вы штосьці ведаеце пра месцазнаходжанне зніклага, паведаміце па тэлефонах: **(80176) 74-96-83, (80176 (77-03-12), (80176) 77-16-56 ці 102.**

### Шукаюць падазраванага ў тэрарызме

**МАЛАДЗЕЧНА.** Упраўленне ўнутраных спраў Сурхандар'інскай вобласці Узбекістана шукае **Хуснудзіна Заіравіча Усманава** (USMANOV HUSNUDDIN).



Нарадзіўся 10 верасня 1983 года (31 год) у горадзе Тэрмез ва Узбекістане, пашпарт серыі CS №1054603.

Можа назвацца грамадзянінам Таджыкістана **Захірам Хабібавым.**

Яго шукаюць за здзяйсненне наступных злачынстваў: тэрарызм, змова з мэтай захопу ўлады, арганізацыя злачыннай супольнасці.

Просім, калі ведаеце пра яго месцазнаходжанне, паведаміць у міліцыю па тэлефоне **102**.

**Паводле паведамленняў аддзялення крымінальнага вышуку Маладзечанскага райаддзела міліцыі.**

МЫТНЯ

### Перавозілі кантрабандныя кветкі – больш за 9 тысяч

**АШМЯНЫ.** 6 студзеня затрымалі на пункце пропуску "Катлоўка" грузавік, які ехаў з Літвы ў Беларусь. У суправаджальных дакументах не было інфармацыі пра больш за дзевяць тысяч свежазрэзаных руж і кветак у грунце. Па факце мытня пачала адміністрацыйны працэс.

**Паводле Tut.by.**




Сын паэта Ігара Грыгор'ева Рыгор, паэтка і перакладчыца з Таганрога Вольга Сафронава і настаўніца і паэтэса з Вілейшчыны Аксана Ярашонак.

● ВЕДАЙ НАШЫХ

# Настаўніцу з Ілы адзначылі ў Санкт-Пецярбургу

**ВІЛЕЙКА. Пасведчанне сябра Міжнароднага саюза мастакоў і майстроў мастацтва Аксане Ярашонак уручылі на канферэнцыі "Слова. Айчына. Вера."**

Яна прайшла ў Санкт-Пецярбургу ў канцы мінулага года ў гонар 90-годдзя рускага паэта Ігара Грыгор'ева (1923-1996).

Імпрэза адбылася ў зале інстытута рускай літаратуры Расійскай акадэміі навук (Пушкінскім доме).

Адкрыў канферэнцыю старшыня Санкт-Пецярбургскага аддзялення Саюза пісьменнікаў Расіі Барыс Арлоў.

З дакладамі выступалі доктар філалагічных навук прафесар БДУ **Анатоль Андрэеў**, ганаровы консул Рэспублікі Беларусь у Цюменскай вобласці **Уладзімір Шугля**, доктар філалагічных навук прафесар **Герман Ёнін** з Санкт-Пецярбургскага педагагічнага ўніверсітэта імя Герцэна, іншыя.

Ігар Грыгор'еў заўсёды вельмі цёпла адносіўся да Беларусі. З беларускага Гарадка, што ў Віцебскай вобласці, паходзіла жонка паэта **Дыяна Захарава**. Тут, у бабулі з дзядулем, у дзяцінстве гадаваўся сын Ігара Мікалаевіча, **Рыгор**. Паэт цікавіўся беларускай літаратурай, перакладаў на рускую мову вершы нашых паэтаў.

Паэт член Саюза пісьменнікаў Беларусі **Міхась Пазнякоў** у сваім выступленні расказаў пра вобраз Беларусі ў жыцці і творчасці паэта. Міхась Паўлавіч адзначыў таксама зацікаўленасць сучасных беларускіх перакладчыкаў паэзіяй Ігара Грыгор'ева. Яго вершы пераклалі на беларускую мову **Мікола Шабовіч**, **Уладзімір Скарынкін**, Аксана Ярашонак.

Завяршылася канферэнцыя падвядзеннем вынікаў Міжнароднага конкурсу лірыка-патрыятычнай паэзіі "Я не мыслю себя без России", прысвечаным 90-годдзю з дня нараджэння Ігара Грыгор'ева.

Старшыня журы, доктар, пісьменнік, святар, сын паэта Рыгор Грыгор'еў уручыў пераможцам, фіналістам і лаўрэатам дыпломы і кнігі. Сярод пераможцаў конкурсу – беларускі паэт Міхась Пазнякоў, сярод фіналістаў – маладзечанка Аксана Ярашонак. Іх вершы разам з вершамі іншых пераможцаў і фіналістаў былі змешчаныя ў зборніку "Я не мыслю себя без России", які выйшаў спецыяльна да канферэнцыі.

**Аддзел інфармацыі.**

● УЗНАГАРОДЫ

## 14 супрацоўнікаў міліцыі атрымалі ўзнагароды і вышэйшыя званні

**МАЛАДЗЕЧНА. Ім уручылі граматы, падзякі, узнагародзілі нагрудным знакам "Класны спецыяліст МУС 3-га класа". Некаторым прысвоілі новыя званні.**

Маёрам міліцыі **Дзмітрыю Юркевічу** і **Андрэю Грабёнкіну** прысвоілі званне падпалкоўніка міліцыі. Старшыя лейтэнанты **Дзмітры Скратуцкі** і **Раман Котаў** цяпер маюць званне капітана. Атрымалі званне "старшы лейтэнант" лейтэнанты **Карына Бажко** і **Святлана Равяка**.

Урачыстае мерапрыемства прайшло 13 студзеня.

### Раскрылі больш на 11 злачынстваў

**Юры Кабакоў**, першы намеснік начальніка РАУС, начальнік крымінальнай міліцыі, адзначыў, што летась раскрылі 94,7% крымінальных злачынстваў. Засталіся нераскрытымі крадзеж і два падпалы.

Ён звярнуў увагу, што зменшылася колькасць згвалтаванняў, крадзяжоў. Колькасць злачынстваў зменшылася ад 991 да 964. Летась раскрылі іх на 11 больш.

Аднак павялічылася колькасць разбояў і збыту наркотыкаў. Стала больш асоб, якія прапалі без вестак.

### Маладым спецыялістам далі жыллё

Не абмінулі ўвагай і пытанне вольнага часу, дзе падтрымліваюць фізічную форму.

Намеснік начальніка РАУС па ідэалагічнай рабоце і кадравым забеспячэнні **Уладзімір Васількоў** сказаў, што 58 супрацоўнікаў міліцыі лічацца ў спісах на паляпшэнне жылля.

Маладыя спецыялісты, у якіх няма жылля ў горадзе, жывуць у інтэрнатах ад "Камунальніка".

Летась на працу ў міліцыю прыйшоў 21 супрацоўнік.

**Галіна СІНІЦА.**

● КОНКУРСЫ

## Віляйчане зрабілі лепшую тантамарэску ў вобласці

**ВІЛЕЙКА. Падвялі вынікі абласнога этапу рэспубліканскай выставы-конкурсу фітадызайну "Лёд. Кветкі. Фантазія". На яе прадставілі больш за 250 фларыстычных прац з Міншчыны.**

Праходзіла выстава-конкурс у пяці намінацыях. У намінацыі "Навагодняя тантамарэска" першае месца занялі навучэнцы Вілейскага цэнтра дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі **Віялета Корсак** і **Ганна Ракецкая**. Стэнд для фатаграфавання яны зрабілі на фоне навагодняга пейзажу, паведамілі ў цэнтры.

Кіравалі працай педагогі **Алена Ракецкая** і **Вольга Саўчыц**.

**Аддзел інфармацыі.**

**Даведка "РГ".**
Тантамарэска – стэнд для фатаграфавання з адмысловымі адтулінамі для твару на фоне пейзажаў і інтэр'ераў або з вывявай розных персанажаў.

● НАШЫ ДЗЕЦІ

## Сем'і з дзецьмі да двух год могуць атрымаць бясплатнае харчаванне на дзяцей

**Каб атрымаць бясплатнае харчаванне на дзяцей, неабходна звярнуцца ў мясцовае ўпраўленне па працы і занятасці. Там патлумачаць, ці маеце вы на гэта права.**

Асноўнай прычынай, па якой на дзяцей даюць бясплатнае харчаванне, з'яўляецца тое, што даход на аднаго чалавека ў сям'і меншы за бюджэт пражытачнага мінімуму (цяпер 1 мільён 396 тысяч рублёў).

Ва ўпраўленні па працы і занятасці адзначаюць, што падстаў для атрымання бясплатнага харчавання значна больш, таму лепш звяртацца да іх і даведвацца, ці маеце вы льготу.

Для атрымання неабходна падаць даведку з месца жыхарства, копію пашпартоў бацькоў, пасведчанне аб нараджэнні дзіцяці, пасведчанне аб заключэнні шлюбу, медыцынскае заключэнне.

### Што і дзе выдаюць

У адпаведнасці з патрэбамі дзіцяці разлічваецца неабходная колькасць малочных сумесяў, сокаў, тваражкоў, мясных пюрэ і пюрэ з гародніны. Выдаюць прадукты беларускай вытворчасці.

У Маладзечне, напрыклад, 26 магазінаў, дзе выдаюць харчаванне на дзяцей.

**Галіна СІНІЦА.**

● ДАБРАЧЫННАСЦЬ

## Прыехалі да пажылых з падарункамі і песнямі

**ВІЛЕЙКА. Гасцей сустракалі 8 студзеня ў Куранецкім інтэрнаце для састарэлых і інвалідаў і Іжанскай бальніцы сястрынскага догляду на Вілейшчыне.**

Сюды з падарункамі прыехалі валанцёры Чырвонага Крыжа, старшыня раённага Савета дэпутатаў **Наталля Радзевіч**, намеснік дырэктара Вілейскага філіяла Маладзечанскага малочнага камбіната **Роза Ількевіч**.

А з імі была творчая група: **Ірына Новік**, **Казімір Таўстыка**, **Антаніна Гарчакова**, **Барыс Манцэвіч**, танцавальны калектыў "Карагод" вілейскай гімназіі №2. Гучалі песні, вершы, байкі. Хто са старых людзей яшчэ ў сілах, то і патанцаваў – хай з кіёчкам.

Такія візіты праводзяць тройчы на год. Прымяркоўваюць іх да навагодніх святаў, Вялікадня і Дня пажылых людзей.

– Бабулі і дзядулі вельмі нас чакаюць. Растваюць у кіраўніцтва, ці прыедзем, – кажа старшыня раённай арганізацыі Чырвонага Крыжа **Святлана Лях**. – Так шчыра радуюцца пры сустрэчы, так кранальна праводзяць, што расчульваюць да слёз. І запрашаюць прыязджаць яшчэ.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

**Жывёлу**

• Бычка для дагадоўвання. Маладзечна. Т. (8-029) 7789212.

**Антыкварыят**

• **АНТЫКВАРЫЯТ, ФОТААПАРАТЫ, ГАДЗІННІКІ, ГРАМАФОНЫ, АБРАЗЫ, МЭБЛЮ, ФАРФОР І ІНШЫЯ СТАРАЖЫТНЫЯ РЭЧЫ.** Т. (8-0176) 542987, (8-029) 6564854.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. "Беларуская Энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

**ЗГУБЛЕНА**

• Згубленыя дакументы ў р-не Зеніт у Вілейцы: пашпарт на імя Джабарава М.М., тэхпашпарт аўто "Мазда-323", прашу вярнуць за ўзнагароджанне. Т. МТС (8-029) 8769545.

• Месяц шукаем рускую-гончую, прапала ў р-не Касцяневічы-Даўгінава. Просьба паведаміць па тэл. (8-01771) 25393, МТС (8-029) 7782619.

**ПРАЦА**

**ШУКАЮ РАБОТУ**

• Праграміста (праграміраванне ў 1С, у DOS, суправаджэнне задач "Улік ОС", "Улік МЦ","Улік ТМЦ і выпіска са склада", "Калькуляцыйная картачка"). Маладзечна. Т. Вэлком (8-029) 145-08-89, МТС (8-029) 263-88-79.*



Фота Наталлі ТУР.

**Маладзечанец Генадзь Унукаў 15 гадоў вядзе гурток па лозапляценні, які цяпер працуе пры Палацы культуры. На здымку Генадзь Андрыянавіч са сваімі выхаванкамі (злева направа) Галінай Варанковай, Таццянай Пастарнак, Раісай Лявонавай і Лідзіяй Карчавай.**

**ЗАХАПЛЕННІ**

# Лозапляценне як сродак ад дэпрэсіі і стомленасці

**МАЛАДЗЕЧНА. Што лечыць ад хваробаў і дапамае ад бяссонніцы? Вы думаеце, дарагія лекі? А вось і не. Звычайная лаза валодае такімі ўласцівасцямі, адкажуць вам у гуртку лозапляцення, які вядзе Генадзь Унукаў.**

Гурток для пачаткоўцаў працуе ў Палацы культуры двойчы на тыдзень. Пасля святаў, у пятніцу, 9 студзеня, першыя заняткі ў гэтым годзе.

– Ну, нарэшце, святы закончыліся, так на заняткі хочацца, – прызнаюцца ўдзельніцы гуртка перад заняткамі.

– Лозапляценне захоплівае так, што два разы на тыдзень збягаем з працы, кідаем мужоў і бяжым да нашага Генадзя Андрыянавіча.

Некаторыя вучаніцы ездзяць двойчы на тыдзень на заняткі са Смаргоні, Мінска, Чысці і Палачанаў.

Генадзь Унукаў кіруе студыяй ужо 15 год. Акрамя таго, ён нязменны кіраўнік гуртка "Вербачка". За гэты час яго вучні неаднойчы перамагалі ў шматлікіх конкурсах, самі станавіліся майстрамі лозапляцення. Але кожны новы сезон Генадзь Андрыянавіч пачынае з новымі вучнямі.

– Мне летам ужо 79 споўніцца, час на заслужаны адпачынак ісці, – кажа Генадзь Андрыянавіч.

Але, як толькі ён гэта сказаў, у студыі, дзе праходзяць заняткі, пачуўся незадаволены голас:

– Не, ніякага адпачынку! Вы, Генадзь Андрыянавіч, наш пастар, павінны быць наперадзе і заўсёды разам з намі!

## Лозапляценне – лепшае снатворнае

Заняткі ў гуртку пачынаюцца як у звычайнай школе – з праверкі дамашняга задання. Кіраўнік падыходзіць да кожнай сваёй вучаніцы і пытаецца, што яна зрабіла дома.

Пакуль астатнія вучаніцы адказваюць, гутарым з **Валянцінай Глінскай**:

– Я хаджу ў гурток з верасня, як і ўсе астатнія. Гэта такое задавальненне, калі ўпершыню атрымоўваецца нейкі выраб! Лозапляценне – гэта такі від працы, якім можна без перашкод займацца і ноччу. Дастаў свой кошычак, уключыў святло і пляці, пакуль сон не змарыць. А пасля руплівай працы і спіцца вельмі добра.

– А ў мяне ад лозапляцення перасталі рукі балець, – далучаецца да размовы **Лідзія Карчава.** Першы час у мяне ўвогуле не атрымоўвалася дробныя дэталі рабіць, рукі не слухаліся, а цяпер і рукі не баляць, і настрой ад такой працы паляпшаецца.

– Канешне, тут так напрацуешся, ажно шчокі гарэць пачынаюць, – каментуе **Людміла Бурачэўская.**

**Раіса Лявонава**, яшчэ адна вучаніца гуртка лозапляцення, кажа:

– Я таксама пасля заняткаў адчула сябе значна лепш. І ў інтэрнэце знайшла інфармацыю, што лаза лечыць і ад дэпрэсіі, і ад гіпатаніі, і ад агульнай стомленасці. Раздрукавала сабе гэты лісточак, цяпер усім сваім "калегам" зачытваю.

**– Лозапляценне – гэта мужчынская ці жаночая справа?**

– Вельмі шкада, што мужчыны не ходзяць, – кажа Генадзь Андрыянавіч, – магчыма, ім жонкі забараняюць. Жанчына ж сама насмеціць, сама і прыбярэ, а калі мужчына з лазой корпаецца, гэта ж яго жонцы прыбіраць.

## Ганчарства з'явілася пазней за лозапляценне

**– Генадзь Андрыянавіч, з лазой шмат працы?**

– Ну, па-першае, яе трэба назапасіць. Потым акарыць. Гэта значыць, зняць кару. Потым зварыць. Але гэта таго варта. Няма ў гаспадарцы такога вырабу, які б нельга было зрабіць з лазы. Гэта і хлебніцы, і куфры, і вазы, і кошыкі, і лямпы, і нават мэбля.

**– А лозапляценне – гэта рамяство ці мастацтва?**

– Ёсць тры стадыі гэтага занятку. Першы – гэта рамяство. Калі вы толькі вучыцеся асновам лозапляцення. Мае вучаніцы ведаюць, што ў мяне ёсць любімая прыказка: калі хочаш зрабіць добра, паўтары 100 разоў.

Другая стадыя – гэта промысел. Калі тваё захапленне прыносіць табе грошы. А трэцяя стадыя і ёсць мастацтва. Калі табе ўжо мала рабіць кошычкі, а хочацца нечага новага, больш складанага.

**– Ці можаце вы палічыць, колькі вырабаў зрабілі за ўсё жыццё?**

– У-у-у-у-у. Штогод я раблю прыкладна па 60 вырабаў. 15 год выкладаю ў гуртку, а колькі яшчэ займаўся да гэтага. Затое цяпер за адны заняткі магу сплесці кошык.

**– Чым лозапляценне выгадна адрозніваецца ад іншых рамёстваў?**

– Ну, па-першае, яно самае старажытнае. Вядомыя факты, што на гліняных вырабах, якія знаходзілі археолагі, былі сляды ад лазы. Інакш кажучы, старадаўнія людзі спачатку рабілі выраб з лазы, потым яго абмазвалі глінай. Так атрымоўваліся гліняныя вырабы. А па-другое, яно патрабуе найменшых выдаткаў.

А яшчэ Генадзь Унукаў вельмі радуецца, калі на нейкіх выставах і конкурсах бачыць працы сваіх вучняў.

**– Няўжо пазнаяце, чыя праца?**

– А як жа! Гэта ж як у школе. Вучаць нас аднолькава, але ж почырк у кожнага свой.

Галоўнае, дадае на развітанне Генадзь Андрыянавіч, што мы сваёй працай захоўваем, адраджаем, развіваем і, хочацца верыць, з кожным годам робім усё больш папулярным гэта старажытнае рамяства.

**Наталля ТУР.**



Фота забяспечана Ігарам КІЦІКАВЫМ.

Ігар Кіцікаў, дырэктар Вілейскага прафесійна-тэхнічнага каледжа, гаворыць, што вада халоднай не бывае. Халодная яна толькі тады, калі замерзла і ператварылася ў лёд.

# Дырэктар вілейскага каледжа: "Ад пяці год купаюся зімой"

**ВІЛЕЙКА. Дырэктар прафесійна-тэхнічнага каледжа Ігар Кіцікаў першы раз акунуўся ў халодную ваду ў пяць год. Навучыў гэтаму бацька.**

– Бацька ў мяне быў суворы, – жартуе Ігар Кіцікаў. – Прымушаў лезці ў халодную ваду. А калі шчыра, то ў дзяцінстве мы жылі каля Вішнеўскага возера. У бацькі пачынаўся купальны сезон ад 1 мая. Ад гэтага часу ён пачынаў плаваць. Калі я быў маленькі, то ўвесь час прасіў, каб і мяне браў з сабой. Нарэшце, у пяць год, мая мара ажыццявілася.

## Акунацца ў ваду зімой – як скакаць з парашутам

Такое параўнанне прывёў дырэктар прафесійна-тэхнічнага каледжа:

– Спачатку становіцца страшна, – дзеліцца ўражаннямі мужчына. – Калі ж акунуўся, адчуваеш гонар, што здолеў гэта зрабіць.

Ігар Кіцікаў гаворыць, што спачатку адчуваеш, як тысячы маленькіх іголачак праходзяць па целе. А пасля – прыемная гарачыня.

Дырэктар прафесійна-тэхнічнага каледжа адзначае, што не было выпадкаў, каб захварэў пасля таго, як купаўся зімой.

– Наадварот, пасля гэтага адчуваеш прыліў энергіі, сіл. А вось часам здараецца, калі ў дрэннае надвор'е падвядзе абутак і прамокнуць ногі – тады магу і захварэць.

Ігар Кіцікаў адзначыў як біёлаг: калі акунаешся ў ваду нават у халоднае надвор'е, то ў арганізме ўключаюцца ахоўныя функцыі. Таму хваробы і не чапляюцца да такога чалавека.

## Купальны сезон ніколі не заканчваецца

Мужчына прааналізаваў і этымалогію свайго прозвішча. У карані закладзенае слова "кіт". А гэта істота, якая заўсёды ў вадзе. Таму ён лічыць, што жыццё само наканавала плаваць. Дарэчы, Кітом яго часам называюць сваякі, сябры і нават вучэнцы.

Ігар Кіцікаў гаворыць, што для яго купальны сезон ніколі не заканчваецца.

– Некаторыя здзіўляюцца, як можна акунацца ў ваду зімой, – расказвае мужчына. – Гавораць, што яна халодная. Я вам як географ адкажу, што вада халоднай не бывае! Халодная яна толькі тады, калі замерзла і ператварылася ў лёд.

## Лепш купацца, калі марозна

У марознае надвор'е пасля купання можна яшчэ крышачку прабегчыся з сабакам, дзеліцца сваімі ўражаннямі аматар зімовага плавання.

Ігар Кіцікаў купаецца на Салдацкім возеры, на Вілейскім вадасховішчы, на Віліі. Таксама ездзіў у Даманова. Мужчына адзначае, што ў Вілейцы ёсць каля дзесяці чалавек, якія рэгулярна купаюцца. З работнікаў прафесійна-тэхнічнага каледжа зімой купаецца і настаўнік фізічнай культуры **Міхаіл Батура**.

Першыя крокі да загартоўвання робіць і жонка, **Ларыса**. Яна пасля лазні абціраецца снегам. Дачка **Лада** любіць купацца, аднак толькі ў цёплай вадзе, зімой пакуль не рызыкавала.

Усім, хто будзе акунацца на Вадохрышча, Ігар Кіцікаў раіць не баяцца, верыць у свае сілы. І тады ўсё атрымаецца.

**Галіна СІНІЦА.**

## Парады доктара для тых, хто будзе акунацца на Вадохрышча

Участковы доктар-тэрапеўт загадчыца тэрапеўтычнага аддзялення маладзечанскай паліклінікі №3 **Жанна Кісель** расказала, што лепш падрыхтавацца загадзя, перш чым акунацца ў халодную ваду.

– Калі чалавек акунаецца ў халодную ваду, арганізм адчувае моцны стрэс, – заўважае доктар. – Калі чалавек здаровы, то ахоўныя сілы арганізма мабілізуюцца. Калі ж хворы, то часта гэта прыводзіць да захворванняў, напрыклад, ангіны, ларынгіту, вострых рэспіраторных захворванняў.

Доктар не рэкамендуе акунацца ў ваду людзям з сардэчна-сасудзістымі захворваннямі. Сасуды могуць рэзка звузіцца, што можа прывесці да інфаркту, можа павысіцца ціск. Людзям з хранічнымі захворваннямі, захворваннямі мочапалавой сістэмы, гінекалагічнымі хваробамі таксалепш не рызыкаваць здароўем.

### Рыхтуйцеся загадзя, каб акунацца ў халодную ваду

Пачынаць можна з кантраснага душа, хадзіць босым па расе. Таксама займацца фізкультурай: бегаць, рабіць практыкаванні. Насіць больш лёгкае адзенне, чым раней.

Жанна Кісель рэкамендуе акунацца хуценька тры разы. Пасля выцерціся ручніком, апрануць цёплае адзенне. У вадзе быць не больш за адну хвіліну.

Пажадана не акунацца з галавой, можа адбыцца спазм сасудаў. Перш чым лезці ў ваду, варта разагрэць мышцы – зрабіць некалькі практыкаванняў.

– Непажадана акунацца ў ваду дзецям, якія часта хварэюць, – гаворыць тэрапеўт. – У іх яшчэ не адаптаваны імунітэт. Вага дзіцяці меншая, чым вага дарослага, таму пераахаладжэнне можа наступіць хутчэй.

Ні ў якім выпадку нельга акунацца ў ваду п'яным. Рэакцыя арганізма можа быць непрадказальная. Падчас алкагольнага ап'янення змяншаецца болевы парог, чалавек можа не адчуць болю.

### Дзе акунуцца на Вадохрышча

У Ашмянах на Вадохрышча можна акунуцца ў палонцы каля ДРСУ-28, у Валожыне – у крыніцы Серафіма Сароўскага, у крыніцы ў вёсцы Лоск.

У Вілейскім раёне кожны год людзі акунаюцца ў Віліі, на вадасховішчы, у крыніцы ў Даманове.

Чытач "Рэгіянальнай газеты" адзначае, што ў Даманова з'язджаецца такая колькасць людзей, што, каб акунуцца ў палонцы, па тры гадзіны чакаюць сваёй чаргі.

ГІСТОРЫЯ

# Пажары, вучэнні і аркестр

## Як добраахвотнікі змагаліся з агнём пры Польшчы



Фота з архіва Соф'і ДЗЕРГАЧ.

Добраахвотнікі ля рамізы, што будуецца.

**МЯДЗЕЛ. Гэта цяпер ледзьве паступіць званок, што дзесьці разгуляўся агонь, адразу туды імчыць пажарная машына з выратавальнікамі. А як змагаліся з агнём раней – скажам, год восемдзесят таму?**

Для прыкладу возьмем мястэчка Кабыльнік (цяпер вёска Нарач) на Мядзельшчыне. Там была свая добраахвотная пажарная ахова. "Straż pożarna" з'явілася ў мястэчку ў трыццатых гадах мінулага стагоддзя. Тут былі не толькі мясцовыя хлопцы, а і дзяўчаты. Уступалі па ўласным жаданні.

– Проста лічылі гэта сваім абавязкам, бо яны ж тут жылі, – кажа мясцовая жыхарка **Соф'я Дзергач.**

Маладыя людзі адчувалі, што робяць патрэбную справу. А кагосьці, мабыць, вабіла прыгожая форма, у якой можна было пакрасавацца перад дзяўчатамі. Ну, а за хлопцамі ішлі ў ахову і прадстаўніцы цудоўнай паловы чалавецтва. Для ўсіх наладжвалі курсы. Хлопцы вучыліся тушыць пажары, а дзяўчаты – аказваць медыцынскую дапамогу пацярпелым.



Фота з архіва Соф'і ДЗЕРГАЧ.

Пажарная ахова на баявым дзяжурстве.

### Самі пабудавалі рамізу

У пажарнай ахове з абсталявання мелі помпу, рукавы, бочкі на ваду, багры, лесвіцы. Для захоўвання інвентару самі будавалі рамізу. На гэтым фоне сфатаграфаваў пажарных местачковы фатограф **Аляксандр Дзергач.**

У рамізе не толькі захоўваўся патрэбны рыштунак. Месцілася бібліятэка са спецыяльнай літаратурай, святліца, дзе збіраліся, праводзілі вольны час.

Ладзілі і танцы, на якія прыходзіла ці не ўся моладзь мястэчка. Мелі пры ахове ўласны духавы аркестр.

Бывала, выходзіў аркестр цягнікі сустракаць. Вядома, дзяржаўныя святы не праміналі. У парадэнай форме шпацыравала "Straż pożarna" на вулачках мястэчка. Усе любаваліся стройнымі, падцягнутымі пажарнымі. А як зайздросцілі ім і іх прыгожай форме дзеці!

Але парады, забаўкі – усё ж не гэта было галоўным. Для ўдзельнікаў пастаянна праводзілі спаборніцтвы і вучэнні.

**– Неяк уначы загарэўся млын у мястэчку, – успамінае Соф'я Дзергач. – Білі ў званы ў касцёле. Усе людзі беглі выратоўваць, а добраахвотнікі – у першую чаргу. Пажар удалося патушыць. І падчас іншых пажараў выратоўвалі дамы, маёмасць.**

Прыгадвае яна яшчэ такі выпадак. У Кабыльніку пэўны час жылі рабочыя з Вільні, якія пракладвалі брукаванку па мястэчку і далей. У цэнтры быў рэстаран вышэйшага класа. Кагосьці з рабочых туды не пусцілі. Неўзабаве рэстаран загарэўся. Местачкоўцы лічылі, што драўляны будынак падпалілі гэтыя рабочыя, каб адпомсціць. Але яго хутка патушылі, і рэстаран ацалеў.

Пажарная ахова клапацілася і пра само мястэчка, і пра ўсю гміну. Коней пажарнай ахове выдзялялі жыхары Кабыльніка.

Хлопцы і дзяўчаты не толькі пажары тушылі. Калі вясной здаралася паводка, яны адпампоўвалі ваду з мясцовай рэчкі, каб раптам стыхія не знесла драўляны масток.

### Прах начальніка прывезлі ў Кабыльнік

Усе ў пажарнай ахове былі добраахвотнікі, нават начальнік **Баляслаў Баркоўскі** (на фатаграфіі ля рамізы ён злева ў першым радзе). Ён меў прафесію, звязаную з будаўнічай справай.

Цікавая гісторыя яго жыцця. У час Другой сусветнай вайны Баляслаў трапіў у польскую армію Андэрса. Пасля заканчэння апынуўся ў Аўстраліі. Але ж цягнула яго на Радзіму. Баляслаў прыязджаў сюды і загадаў пасля смерці перавезці прах на Беларусь і пахаваць на могілках у Кабыльніку. Так і было зроблена.

Нядоўга праіснавала добраахвотная пажарная ахова ў мястэчку – да 1939 года. Але памяць пра яе ў людзей засталася добрая. І яшчэ доўга пасля вайны на ўсю акругу славіўся мясцовы духавы аркестр, пачатак якому паклалі пажарныя-добраахвотнікі.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

КАЛЯНДАР

**16 студзеня.** 1916 год. Нямецкі фельдмаршал Гіндэнбург выдаў загад аб наданні беларускай мове раўназначнае права з іншымі краёвымі мовамі на акупаваных кайзераўскімі войскамі тэрыторыях.

***

**110 гадоў** з дня нараджэння Алеся Пальчэўскага (1905 – 1979), беларускага пісьменніка. Скончыў БДУ. Працаваў у часопісе "Іскры Ільіча". У 1936-м рэпрэсіраваны. У 1946 – 48 настаўнічаў наМіншчыне. У 1949 зноў асуджаны, высланы ў Краснаярскі край. Рэабілітаваны ў 1954. Пасяліўся ў Мінску. Працаваў рэдактарам мастацкай літаратуры ў Дзяржвыдавецтве БССР, літсупрацоўнікам, у 1961 – 71 – адказны сакратар часопіса "Вясёлка".

***

**17 студзеня.** 1979 год. У СССР прайшоў перапіс насельніцтва, паводле якога на Беларусі – 9 560 000 чалавек.

***

**18 студзеня.** 120 гадоў назад (1895) у мястэчку Івянец, цяпер Валожынскі раён, нарадзіўся Лявон Більдзюкевіч, педагог, матэматык, грамадскі дзеяч. Скончыў Мінскую гімназію, Кіеўскі універсітэт, педагагічныя курсы пры Кіеўскай навучальнай акрузе, курс па эканоміцы Кіеўскага камерцыйнага інстытута). Ад 1919 у Мінску, загадчык школы сляпых, дзе перавёў навучанне на беларускую мову. У час польска-савецкай вайны 1919-20 – член Часовага Беларускага нацыянальнага камітэта ў Мінску, удзельнічаў у працы Беларускай школьнай рады Міншчыны, у распрацоўцы навучальных праграм для беларускай пачатковай школы. Ад кастрычніка 1919 – выкладчык Мінскай беларускай гімназіі, уваходзіў у камісію пры Мінскім беларускім педінстытуце па распрацоўцы беларускай матэматычнай тэрміналогіі. Пераклаў на беларускую мову падручнікі па матэматыцы. Ад 1930 працаваў у Інстытуце торфу БССР, выкладаў у Беларускім політэхнічным інстытуце і БДУ. 22.7.1938 арыштаваны па т.зв. справе "Саюза вызвалення Беларусі" і асуджаны на 5 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Паводле афіцыйных звестак, памёр на Калыме. Рэабілітаваны ў 1956 годзе.

***

**1912 год.** Нарадзіўся Пётра Сыч (в. Батурына, цяпер Вілейскі раён), пісьменнік, аўтар аповесці "Смерць і слава" пра бітву пад Монтэ-Касіна, публіцыст, вязень савецкіх канцлагераў, журналіст, дзеяч эміграцыі ў Вялікабрытаніі і Германіі.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**

МУЗЫКА

# Выбраў царкоўны хор замест опернай сцэны

**ВІЛЕЙКА. У яго жыцці вера з'ядналася з музыкай. Ураджэнец Вілейкі Дзмітры Такмакоў расказвае, як у 13 год стаў рэгентам царкоўнага хору, і прызнаецца, чаму не пачаў кар'еру опернага спевака.**

– Музыкантам стаў менавіта ад таго, што з самага дзяцінства чуў, убіраў у сябе песні, – кажа ён. – Часта з роднымі спявалі, развучвалі шмат народных песень. У мяне абедзве бабулі цудоўна спяваюць. Дагэтуль адна пяе ў царкоўным хоры, а другая – у ансамблі "Бабіна лета".

Хлопцу была наканавана дарога ў музычны свет. У Вілейцы вучыўся ў музычнай школе. Паспеў крыху паспяваць у вакальнай студыі "Экспромт". І першай сцэнай быў Вілейскі Палац культуры.

У восем год Дзмітры паступіў у рэспубліканскую гімназію-каледж пры Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі ў Мінску. Па заканчэнні атрымаў спецыяльнасць дырыжора. Музычную адукацыю працягнуў у Санкт-Пецярбургскай кансерваторыі.

### Рэгентам хору стаў у 13 год

Дзмітры з дзяцінства, яшчэ ў Вілейцы, наведваў богаслужэнні ў царкве, спяваў на клірасе.

Навучанне ў каледжы і кансерваторыі ён сумяшчаў з царкоўным служэннем. Кіраваў хорамі ў храмах у Міханавічах ля Мінска і ў Санкт-Пецярбургу. Рэгентам хору стаў у 13 год.

Калі пасля заканчэння кансерваторыі вярнуўся у Беларусь, Дзмітрыя запрасілі кіраваць мужчынскім хорам "Усіхсвяцкі" пры храме Усіх Святых у Мінску.



Фота забяспечана Дзмітрыем ТАКМАКОВЫМ.

Саліруе Дзмітры Такмакоў.

У хоры спявае 25 чалавек – усе яны прафесійныя музыканты. Акрамя богаслужэнняў, хор з'яўляецца пастаянным удзельнікам розных мерапрыемстваў і фестываляў. Самымі запамінальнымі Дзмітры называе леташні канцэрт-віншаванне лаўрэатаў прэміі "За духоўнае адраджэнне" ў Палацы рэспублікі, міжнародны фестываль праваслаўных спеваў "Дзяржаўны глас".

У аснове рэпертуару хору – праваслаўныя спевы. Але таксама выконвае аўтарскія творы, народныя і казацкія песні.

Сваёй задачай 25-гадовы музыкант паставіў прасоўваць беларускую народную песню і родную мову. Пакрысе ўвасабляе гэту ідэю. Напрыклад, нядаўна пераклаў для мужчынскага хору вядомую песню "Бывайце здаровы".

Таксама Дзмітры выкладае вакал у гімназіі-каледжы пры Акадэміі музыкі. Стварае духоўныя кампазіцыі і апрацоўкі.

### Вучыўся на опернага спевака

У Санкт-Пецярбургскай кансерваторыі вучыўся на аддзяленні оперных спеваў.

**– Не шкадуеце, што не пачалі кар'еру опернага спевака?**

– Прайшло яшчэ мала часу, і пакуль не шкадую. Бо я ў хоры знаходжу прымяненне сваім вакальным навыкам, часта салірую. Так што, дасвед не гублю.

**– Чым для вас сталі праваслаўныя спевы?**

**– Для мяне гэта жыццё – без перабольшвання. Гэта выяўленне майго стану душы, унутранага свету. Паколькі ён звязаны з царквой, гэта лепшае, чым я магу займацца. Сваё музычныя здольнасці павінен прымяняць на служэнне Богу і людзям.**

### Зямляк прыедзе з канцэртам

Дзмітры дагэтуль прыгадвае крыжовыя хады, якія ладзіў тагачасны настаяцель царквы прападобнай Марыі Егіпецкай у Вілейцы айцец Сімеон Мацюх. Выбіраліся на цэлы дзень, па дарозе шмат спявалі.

– Такіх царкоўных святаў, як у Вілейцы, я больш нідзе не сустракаў. Якая атмасфера, які ўзнёслы стан душы ў людзей у храме! Тыя пачуцці ні з чым не параўнаць.

Шкадуе ён, што на святы не ўдаецца прыязджаць у Вілейку: заняты з хорам на сваім прыходзе.

Але хутка прыедзе – не на свята, а з канцэртам. Мужчынскі хор "Усіхсвяцкі" плануе 25 студзеня даць канцэрт у Вілейцы.

– Гэта будзе своеасаблівым творчым прынашэннем роднаму гораду. Чакаю на канцэрце шмат знаёмых, гасцей. Бо ведаю, што ў Вілейцы нямала таленавітых людзей.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

**Даведка "РГ".**
Рэгент – кіраўнік царкоўнага хору. Клірас – у праваслаўнай царкве месца, на якім падчас набажэнства знаходзяцца пеўчыя.

ВЫСТАВЫ

# На адкрыцці выставы вясельных фота і відэа будуць два смачныя фантаны

**МАЛАДЗЕЧНА. А 16 гадзіне ў пятніцу, 23 студзеня, пачне працу выстава работ маладзечанскіх фатографаў і відэааператараў. Яна будзе доўжыцца каля двух тыдняў.**

Пра імпрэзу распавёў арганізатар выставы, прадпрымальнік **Антон Шабуневіч**.

У фае Палаца культуры за зімовым садам размесцяць фота, на тэлевізійным экране будуць паказваць ролікі. Наведнікам прапануюць буклеты з інфармацыяй пра прафесіяналаў.

– Мы праводзім выставу не толькі для таго, каб натхняліся наведнікі, – распавядае Антон Шабуневіч. – Гэта таксама выдатная магчымасць будучым жаніху і нявесце выбраць прафесіяналаў на сваё вяселле.

Само адкрыццё арганізатары абяцаюць яскравым. Наведнікаў здзівяць фантаны з шакаладам і кактэйлем. Плануюць запрасіць музыканта, які будзе іграць на раялі, і кандытара, які спецыялізуецца на вясельных тартах.

**24 і 25 студзеня для наведнікаў выставы праводзяць адмысловую акцыю. На ёй будзе працаваць некалькі фатографаў, якія бясплатна будуць фатаграфаваць ахвотных. Фота можна будзе спампаваць з сайта, адрас якога адразу падкажуць.**

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

КУЛЬТУРА

# Конкурс фотаздымкаў Ашмяншчыны працягнецца да 25 студзеня

**АШМЯНЫ. Планавалася, што ў краязнаўчым музеі імя Францішка Багушэвіча работы будуць прымаць да 15 студзеня, пасля падвядуць вынікі.**

– Вырашылі, што лепш працягнуць конкурс да 25 студзеня, – гаворыць дырэктар музея **Настасся Навіцкая**. – Работ вельмі шмат, і ўсе яны разнастайныя. Таму хочацца даць яшчэ адну магчымасць ахвотным паказаць на фотаздымках сваю Ашмяншчыну.

### За час конкурсу даслалі больш за 40 прац

Пераважна на іх выявы горада, раёна, архітэктурныя помнікі.

– Цікава тое, што няма аднолькавых работ, – дзеліцца ўражаннямі ад фотаздымкаў Настасся Навіцкая. – Кожны фатограф паспрабаваў паказаць на фотаздымках Ашмяншчыну ў незвычайным ракурсе.

### Плануюць выдаць кнігу з фотаздымкамі

Вынікі конкурсу падвядуць 5 лютага. Работы будуць ацэньваць супрацоўнікі музея і аддзела культуры і па справах моладзі Ашмянскага райвыканкама.

Удзельнікі конкурсу атрымаюць памятныя падарункі. А пераможцу чакае кніга.

Таксама плануюць выдаць кнігу, у якой будуць лепшыя фотаздымкі. Іх можна будзе паглядзець на выставе ў краязнаўчым музеі.

**Галіна СІНІЦА.**

НАМ ПІШУЦЬ

# Пазіцыя мусульман нашага рэгёна на французскія падзеі: "Расправа і самасуд супярэчаць шарыяту"

**АШМЯНЫ. Ліст у рэдакцыю дасылаў чытач з Ашмянаў Дзмітры Радкевіч.**

"Шкадуем усіх, хто быў нявінна забіты ад рук тэрарыстаў. Спачуваем іх родным і блізкім. Бог ведае, чаго хацелі забойцы і што атрымалася ў іх... Але чыніць расправу і самасуд сваім одумам – гэта супярэчыць шарыяту.

Нагадваем, што ні Бога, ні Прарока нельга ніяк абылгаць і зганьбаваць. Гэта ўсё адно, што спрабаваць даплюнуць да сонца. Адзінабожжу, ісламу і нашай пашане да Прарока не здолее нашкодзіць ніводзін са створаных. Веру ніхто ў нас не адбярэ, але можам мы яе самі страціць. І каб гэтага не было, пільнуйцеся Закона Божага самі, бойцеся Бога і больш нікога.

Майце на ўвазе – Бог бачыць вас заўсёды. Таму таксама бойцеся лепш стаць прыгнятальнікам, бойцеся закрануць чужое права, бо калі нявінна ад вас пацерпіць хто б то ні быў, вернік ці нявернік, дык у Дзень Адплаты пан Бог можа даць яму вашы ўзнагароды, а вам пакінуць яго грахі – і ў любым выпадку вялікае яго прашэнне-дуа супраць вас.

Бойцеся быць несправядлівымі з людзьмі, шануйце суседзяў і землякоў – гэта і будзе найлепшым вызнаннем ісламу. Не думайце дрэнна пра людзей. Ніколі цярплівасць так не дарэчы, як пры першым удары лёсу. Набярыцеся цярпення.

І няхай дапаможа нам Бог".

Ліст напісаны як водгук на падзеі 7 студзеня ў Парыжы, калі адбылася тэрарыстычная атака на сатырычны часопіс "Шарлі Эбдо" і забрала жыцці 12 чалавек. Мяркуецца, што нападнікі адпомсцілі за карыкатуру на тэму прарока.

**Аддзел інфармацыі.**

**Даведка "РГ".**
Прашэнне-дуа – так вернікі ісламскай рэлігіі называюць мальбу да Бога.

ТВОРЧАСЦЬ

# Запрашаюць на народны паэтычны слэм у Мінску

13-15 лютага ў Мінску пройдзе штогадовы міжнародны фестываль імя Міхася Стральцова "Вершы на асфальце", у межах якога адбудзецца слэм – паэтычнае спаборніцтва, дзе аўтары чытаюць свае вершы і атрымліваюць адзнакі ад глядацкай залы за змест і артыстызм.

Заяўкі на ўдзел прымаюцца ад 16 снежня 2014 да 2 лютага 2015 года.

### Як падаць заяўку:

Загрузіце на youtube відэа, дзе вы чытаеце адзін уласны верш, і дашліце спасылку на ролік праз форму падачы заяўкі на сайце lit-bel.org.

Па ўсіх пытаннях звяртайцеся па тэлефоне **(8017) 200-80-91** ці электроннай пошце sbp@lit-bel.org.

**Паводле паведамлення аргкамітэта фестывалю.**

19 СТУДЗЕНЯ – ДЗЕНЬ ВЫРАТАВАЛЬНІКА

# Выратавальніцы рэгіёна марылі аб пагонах з дзяцінства

**У кагосьці з супрацоўніц МНС пры ўспаміне аб здарэннях халадзее ўнутры, а хтосьці спакойна п'е каву, разглядаючы фотаздымкі трупаў.**

Мы задалі тры пытанні прадстаўніцам цудоўнай паловы чалавецтва, якія працуюць у шасці раённых аддзелах па надзвычайных сітуацыях:

1. Чаму выбралі сваёй прафесіяй службу ў МНС?
2. Ці дапамагаюць мужчыны-калегі?
3. Ці выязджалі на здарэнні?

Чаму пытанне мы задалі толькі шасці, спытаеце вы? А таму, што ў Ашмянскім райаддзеле па надзвычайных сітуацыях не працуе ніводнай жанчыны.

**СМАРГОНЬ.** Афіцэрскі састаў Смаргонскага райаддзела таксама абдзелены жанчынамі. Але тут працуе **Таццяна Прусаковіч**, спецыяліст групы навучання і прапаганды.

Перад тым, як прыйсці працаваць у МНС, Таццяна пабыла і педагогам, і журналістам. Таму праца ў інспекцыі стала для яе своеасаблівым сінтэзам гэтых дзвюх прафесій. З аднаго боку – гэта праца з дзецьмі, з іншага – магчымасць заявіць пра сябе ў СМІ.

З калектывам, прызнаецца Таццяна, ёй вельмі пашанцавала. А яшчэ больш пашанцавала з кіраўніком. Начальнік Смаргонскага РАНС **Максім Шыхалёў**, як прызнаецца Таццяна, яшчэ ні разу не адмовіў у дапамозе ці парадзе.

**– У жанчыны, якая працуе ў мужчынскім калектыве, ёсць свая зброя – усмешка.**

– Мне дастаткова ўсміхнуцца і сказаць некалькі прыемных слоў сваім калегам, каб яны спачатку зрабілі маю работу, а толькі потым сваю, – кажа Таццяна.

Што датычыцца надзвычайных сітуацый, то пораху, як кажуць, Таццяне пакуль панюхаць не ўдалося.

– Але ўсе відэа са здарэнняў, усе фота я прапускаю праз сябе. І праца ў МНС навучыла мяне ніколі не пакідаць электрапрыборы ў рэжыме чакання. Я прымусіла мужа па ўсёй кватэры павесіць пажарныя апавяшчальнікі. Жарты жартамі, а я цяпер дакладна ведаю, што такі апавяшчальнік можа і жыццё выратаваць.





**Ксенія Таратута ў Маладзечанскім райаддзеле па надзвычайных сітуацыях служыць разам з мужам Дзмітрыем. Пазнаёміліся яны падчас вучобы ў камандна-інжынерным інстытуце.**

## На дзяжурстве ў Мядзеле не мыюць машыну, а ў Астраўцы не чысцяць маячкі

**МЯДЗЕЛ. Ірына Карапецян**, інспектар групы прапаганды і навучання Мядзельскага райаддзела па надзвычайных сітуацыях, прызналася, што пагоны марыла насіць заўсёды. Таму выбар стаяў толькі паміж МНС і міліцыяй.

Ірына прызнаецца, што, калі працавала дыспетчарам, адна ніколі не дзяжурыла. Хлопцы-выратавальнікі, якія выходзілі на сваё дзяжурства, ніколі не клаліся спаць. А сядзелі побач з Ірынай усю ноч.

– І на званкі тэлефонныя маглі самі адказаць. Шкадавалі мяне. Увогуле, за паўтара года, што я працавала дыспетчарам, на маіх дзяжурствах былі толькі чатыры пажары. Калегі кажуць, што я шчаслівая. А ёсць у нас у аддзеле такая парачка, дыспетчар і дзяжурны, што, калі дзяжураць яны, абавязкова нешта здараецца. У нас і жарт такі ёсць, што ў Мядзеле пажары здараюцца суткі праз двое.

А яшчэ тут вераць у прыкмету, што калі перад дзяжурнай зменай вымыць машыну, то абавязкова давядзецца выехаць на пажар.

**АСТРАВЕЦ. Анастасія Бяйцюк**, інспектар інспекцыі нагляду і прафілактыкі Астравецкага райаддзела, таксама прыгадала, што і ў Астраўцы ў дзяжурных шмат прыкмет. Але, у адрозненне ад Мядзела, машыны яны мыюць, а вось маячкі – не. А яшчэ дыспетчар ніколі не будзе праціраць тэлефон перад зменай. Інакш трубку ўсю ноч не пакладзеш.

Анастасія насіць форму марыла з дзяцінства. Цяпер, калі мара здзейснілася, прызнаецца, што сваю работу не прамяняе ні на што.

– Так, бывае цяжка. І не магу сказаць, каб нехта з калег-мужчын рабіў маю працу. Але ў нас у аддзеле ўзаемадапамога.

**Я магу, напрыклад, за кагосьці з калег зрабіць нейкую папяровую справу, а яны за гэта выедуць на здарэнне замест мяне.**

Самае прыемнае ў працы выратавальнікаў, кажа Насця, гэта падзяка людзей.

**ВІЛЕЙКА.** У Вілейскім жа райаддзеле па надзвычайных сітуацыях, прызнаецца інспектар групы прапаганды і навучання **Надзея Літвіновіч**, палёгкі няма. Усе калегі працуюць на роўных.

– Ды я і не скарджуся! Сама хацела насіць пагоны. Я чалавек баявы, маю чорны пояс па каратэ. Хутчэй, мае хлопцы ў мяне просяць дапамогі, – жартуе Надзея.

Калі прыйшла працаваць інспектарам, ёй даводзілася часта разглядаць фотаздымкі і відэа з месцаў здарэння.

І першы час, прызнаецца, усе гэтыя малюнкі доўга перад вачыма стаялі.

**– Я цяпер магу каву піць і фоткі з трупамі разглядаць.**

Да ўсяго прывыкаеш.

## "Успамінаю, як ратавалі вёску, і ўсё халадзее ўнутры"

**ВАЛОЖЫН.** – Як успомню, як тушылі пажар у вёсцы Скарынкі Івянецкага сельсавета, – расказвае інспектар Валожынскага райаддзела **Алеся Радзвіловіч**, – да гэтага часу ўсё ўнутры халадзее.

Летам у лесе, непадалёк ад Скарынак, здарыўся пажар. А вёска акурат ля лесу стаіць. На ўскрайку яе загарэўся хлеў. Каб агонь не перакінуўся на жылыя пабудовы, сцягнулі ўсе сілы МНС, падключылі лясгас, далучыліся ўсе жыхары вёскі. З агнём справіліся, вёску выратавалі.

– Праца ў МНС мне падабаецца. А сябры мае лічаць, што я трохі павернутая на сваёй працы. Таму што, калі прыходжу ў госці да сяброў, у першую чаргу ўвагу звяртаю не на карціны і люстры, а ці ёсць у доме пажарны апавяшчальнік.

**МАЛАДЗЕЧНА. Ксенія Таратута**, інспектар Маладзечанскага райаддзела, з дзяцінства марыла быць ваенным лётчыкам. Але дзяўчат у лётчыкі не бралі.

– Затое, калі я паступала, даведалася, што ў МНС прымаюць дзяўчат.

У Маладзечанскім МНС, кажа Ксенія, няма палёгкі дзяўчатам. Тут працуюць па прынцыпе: надзеў пагоны, будзь гатовы працаваць.

Кожны пажар, на які даводзілася выязджаць Ксеніі, яна памятае.

– Але я не хацела б пра гэта гаварыць, таму што за кожным з іх чалавечая трагедыя. А самае прыемнае ў працы ў МНС, – працягвае Ксенія, – гэта праца з людзьмі, з дзецьмі. Гэта перамогі ў спаборніцтвах. І што хаваць, каб не МНС, я не пазнаёмілася б са сваім мужам, які працуе начальнікам каравула ў Чысці.

Дома Ксенія і Дзмітры пра работу не гавораць.

– Гэта таму, што Дзмітры таксама працуе ў МНС, а так бы я кожны вечар яму расказвала б пра сваю працу ў падразбязнасцях!



**Наталля ТУР.**
E-mail: natali.turenok@gmail.com

НАВІНЫ СПОРТУ

## Прадстаўнікі Крывасельскага сельсавета перамаглі ў спартакіядзе

**ВІЛЕЙКА.** Спартакіяда сярод камандаў работнікаў райвыканкама і сельсаветаў адбылася ў райцэнтры 9 студзеня. Праходзіла яна ў цэнтры фізкультурна-аздараўленчай работы "Сатурн".

Было амаль сто ўдзельнікаў. Спаборнічалі сем камандаў сельсаветаў і прадстаўнікі аддзела адукацыі, спорту і турызму.

Спаборніцтвы складаліся з камбінаванай эстафеты з дзесяці відаў, плавання, перацягвання каната, дартса, гіравога спорту, конкурсу капітанаў.

Мацнейшай стала каманда Крывасельскага сельсавета. Перамагла яна з вялікім адрывам, распавяла галоўная суддзя спаборніцтваў **Наталля Стаўская**.

На другім месцы прадстаўнікі Вязынскага сельсавета, на трэцім – Нарочкага.

## Вучні змагаліся ў зімовым мнагаборстве

**ВІЛЕЙКА.** Раённыя спаборніцтвы па зімовым мнагаборстве "Здароўе" прайшлі 10 студзеня. У іх прынялі ўдзел больш за 120 вучняў з Вілейшчыны.

Праграма ўключала стральбу з пнеўматычнай вінтоўкі, скачкі ў даўжыню з месца, лыжныя гонкі. А яшчэ было падцягванне (для хлопчыкаў) і згінанне рук (для дзяўчынак), расказала дырэктар раённага цэнтра дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі **Жанна Скуратовіч**.

Сярод гарадскіх устаноў адукацыі перамагла каманда вілейскай гімназіі №2. На другім месцы прадстаўнікі гімназіі №1 "Логас", на трэцім – сярэдняй школы №3.

Паміж вясковых установ адукацыі не было роўных вучням Чурлёнскага сада-школы. На другім і трэцім месцах каманды Даўгінаўскай СШ і Ільянскай СШ адпаведна.

## Сустрэнуць дзень снегу

**ВІЛЕЙКА.** На 18 студзеня ў Вілейцы прызначаныя мерапрыемствы ў межах Сусветнага дня снегу. Адбудуцца яны на плошчы Леніна.

У праграме спартыўная эстафета, рухомыя гульні і іншыя спаборніцтвы ў залежнасці ад умоў надвор'я.

Пачатак у 10 гадзін.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**




**Фотаздымак зроблены пасля пераможнага матча за бронзавыя медалі на чэмпіянаце краіны ў 2009 годзе. Ці зможа ў сезоне 2015 года Аляксандр Гармаза (на здымку крайні злева) і яго цяперашняя каманда паўтарыць той вынік?**

**ФУТБОЛ. ДРУГАЯ ЛІГА**

# ФК "Маладзечна-2013" ліквідуецца

## На нацыянальных спаборніцтвах горад прадставіць каманда ДЮСШ-4

**МАЛАДЗЕЧНА. Галоўным трэнерам каманды, хутчэй за ўсё, стане Аляксандр Гармаза.**

Навіну пра тое, што ФК "Маладзечна-2013" больш не будзе прадстаўляць Маладзечна на нацыянальных спаборніцтвах, паведаміў "РГ" яго дырэктар **Аляксандр Любанец**.

– Нам кіраўніцтва горада ясна дало зразумець, што зачыняе перад намі дзверы на карысць мясцовай каманды. Што будзе з клубам? Хутчэй за ўсё, ён будзе ліквідаваны пасля таго, як мы выплацім усе запазычанасці.

Інфармацыю наконт таго, што ДЮСШ-4 будзе прадстаўляць горад на нацыянальным чэмпіянаце, пацвердзіў загадчык сектара спорту і турызму аддзела адукацыі Маладзечанскага райвыканкама **Аляксандр Кавалёў**.

– Канчаткова інфармацыя пацвердзіцца, калі мы пададзім заяўку. А адбудзецца гэта ў канцы студзеня. Пакуль жа папярэдне я магу сказаць, што горад прадставіць каманда, якую ўзначаліць або **Аляксандр Гармаза**, або **Віталь Казяк**.

Аляксандр Кавалёў падкрэсліў, што ў склад каманды ўвойдуць выхаванцы ДЮСШ №4, мясцовыя футбалісты.

– Дзякуючы гэтаму мы мяркуем, што балельшчыкі вернуцца на стадыён.

**– Што паслужыла прычынай адмовіцца ад ФК "Маладзечна-2013"?**

– Іх мінулагодні вынік на чэмпіянаце. Як вы ведаеце, каманда заняла 14 месца з 16. З ДЮСШ, я ўпэўнены, такога не паўторыцца. Мы ставім сваёй мэтай увайсці ў першую шасцёрку чэмпіянату.

**– Што будзе з камандай ДЮСШ, якая прадстаўляла горад на абласным чэмпіянаце?**

– Каманда застанецца. На абласных спаборніцтвах таксама будзе ўдзельнічаць і сёлета.

Аляксандр Кавалёў падкрэсліў, што на рэспубліканскім чэмпіянаце горад прадставіць менавіта каманда, а не клуб. А гэта значыць, што гульцы будуць выступаць без заробку.

Маладзечанская каманда будзе называцца "ДЮСШ-4 Маладзечна". Трэніроўкі каманды павінны пачацца з пачатку лютага.

### Аляксандр Гармаза: эмблему каманды, якую выбралі заўзятары, мы захаваем

**– Ці плануеце мяняць назву каманды?**

– Не, аднаназначна ў каманды застанецца назва "ДЮСШ-4 Маладзечна".

**– У мінулым годзе заўзятары каманды выбралі эмблему клуба. Ці захаваецца яна?**

– Так, эмблему, за якую галасавалі заўзятары, мы пакінем.

**– Вядома, што традыцыйныя колеры каманды бела-зялёныя. Каманда ДЮСШ на вобласці выступала ў жоўта-чорнай форме. Якім колерам аддасце перавагу ў гэтым сезоне?**

– Хутчэй за ўсё, дамашняя форма ў нас будзе зялёная, на выездзы будзем ездзіць у жоўта-чорнай.

**– Якія гульцы ўвойдуць у склад каманды?**

– Аснову каманды складуць гульцы, якія прадстаўлялі Маладзечна на абласных спаборніцтвах. Мы плануем весці перамовы з клубам "Маладзечна-2013", каб у каманду запрасіць трох-чатырох, але не больш за пяць футбалістаў, якія гулялі ў камандзе "Маладзечна-2013". Пры гэтым, гаворка не ідзе пра нашых гульцоў: **Юрыя Бугая, Паўла Сумана і Прохара Новікава.** Яны, вядома, увойдуць у склад каманды.

**– Як будзеце разрываць паміж камандай, якая застанецца прадстаўляць горад на абласных спаборніцтвах, і камандай рэспубліканскага ўзроўню?**

– На вобласці будзе гуляць моладзь, хлопцы 1999 года нараджэння. Разрывацца ніхто не будзе. У спартыўнай школе дастаткова трэнераў, якія будуць задзейнічаны ў падрыхтоўцы гэтай каманды.

**– Якія задачы перад сабой ставіце ў гэтым сезоне?**

– Мы заўсёды перад сабой ставім высокія мэты. І я думаю, што гэта цалкам магчыма, што Маладзечна ўрэшце ўвойдзе ў шасцёрку лепшых камандаў. Галоўнае цяпер, гэта наладзіць вучэбна-трэніровачны працэс.



Наталля ТУР.
E-mail: natali.turenok@gmail.com

**НАВІНЫ СПОРТУ**

## Смаргонская "Вілія" саступіла лідару

**СМАРГОНЬ.** У чацвертым туры чэмпіянату Гродзенскай вобласці па міні-футболе смаргонская "Вілія" сустракалася з "Меліяратарам" з Астраўца. Матч праходзіў ў Гервятах. "Вілія" перамагла 12:6.

– Выйгралі спакойна, на класе, – падзяліўся ўражаннямі гулец смаргонскай каманды **Віталь Будай**.

Наступны матч адбыўся ў Смаргоні 11 студзеня. "Вілія" саступіла з лікам 6:11 лідару – "Воранава".

– Гледачы казалі, што гульня была прыгожая. Вельмі добра глядзелася з боку: усё было на хуткасці, – кажа Віталь.

Па-ранейшаму "Вілія" ўпэўнена займае другое месца ў групе "Поўнач".

## Цукеркі для каратыстаў

**ВІЛЕЙКА.** У дзіцячым цэнтры "Надзея" 10 студзеня прайшлі 37-я рэспубліканскія спаборніцтвы па ката шатакан каратэ-до "Буслік на татамі "Надзеі".

У спаборніцтвах прымалі ўдзел больш за 60 прадстаўнікоў з Мінска, Віцебскай, Мінскай і Магілёўскай абласцей. Гэта юныя спартсмены ва ўзросце ад 6 да 15 год, а таксама іх інструктары і бацькі.

Спаборніцтвы праекта "Буслік – сябар Тапаліна" праводзяцца па мадэлі міжнародных дзіцячых фестываляў "Трафеі Тапаліна" ў Італіі. У нашай краіне пачалі праводзіцца з 1999 года. Летась яны ўпершыню адбыліся за межамі Мінска – у "Надзеі". Сёлета яны праходзілі на базе дзіцячага цэнтра ў другі раз.

Прыехала нямала ганаровых гасцей. Галоўным суддзёй спаборніцтваў была шматразовая чэмпіёнка свету і Еўропы, заслужаны майстар спорту Беларусі, уладальніца шостага дана, суддзя міжнароднай катэгорыі **Святлана Вількіна.**

Перад удзельнікамі з паказальным нумарам выступілі акрабаты з Вілейскай ДЮСШ (трэнер **Таццяна Літвіновіч**).

Кульмінацыяй спаборніцтваў стала ўзнагароджанне пераможцаў. Шасці юным спартсменам уручылі ўзнагароды за майстэрства.

Усе ўдзельнікі спаборніцтваў атрымалі салодкія прызы. Гэта цукеркі пад назвай "Буслік", якія на фабрыцы "Камунарка"спецыяльна зрабілі для гэтага выпадку. А яшчэ з паказальнымі выступленнямі выступілі тытулаваныя спартсмены.

Пра ўсё гэта расказала вядучы спецыяліст па сувязях з грамадскасцю "Надзеі" **Таццяна Майсак.**

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

# Камент-эксперт

Rh.by

**Прысылайце свае каментары да артыкулаў і паведамленні праз сэрвіс унізе інтэрнэт-старонкі ці на e-mail: regionnews@rh.by, regionaljnaja@tut.by SMS на нумар +375-29 67-68-420**

### Развітанне з дырэктарам Маладзечанскага аўтапарка №4 Яўстафіем Караваем

Спачуваю блізкім Яўстафія Іванавіча і ўсім, хто яго ведаў. Добры чалавек быў. Светлая памяць! ***Вікторыя Пятрова.***

### Успаміны пра праводзіны ў армію, гора людзей у час вайны

Кожны раз, чытаючы падобныя нататкі, яны заўжды мне вельмі кранаюць сэрца. І пры гэтым кожны раз наводзіць на думку, за што нашу старонку так Бог карае? Усё жыццё жывём у горы і ў залежнасці ад іншых. Можа, таму, што адносіны паміж сабой у нас пабудаваныя не так, як трэба, не па-чалавечы?! (...)*Алесь Раткевіч.*

### Як стаць на шарык, каб ён не лопнуў, чаму крухмал вадкі і цвёрды адначасова – шукаюць адказы маладыя навукоўцы

Павагі заслугоўваюць настаўнікі, якія арганізавалі Клуб маладых адкрывальнікаў і дадзенае мерапрыемства. Малайцы! ***Алена.***

### Лесанарыхтоўкі ля Нарачанкі

Злачынства 21 стагоддзя! Меліярацыя 60-70 гадоў мінулага стагоддзя выглядае дробяззю ў параўнанні з сённяшняй павальнай высечкай беларускіх лясоў! Здзіўляемся, чаму воды грунтавыя апусціліся? Чаму ручаі ў лясах (цяпер ужо былых) павысыхалі? З-за чаго дзюркі азонавыя у беларускім небе? Прычына ўсяму – гэтаму людская бязмерная прагавітасць да багацця і слепата навукоўцаў! Мора ад нас далёка, так што "сахары" нашым нашчадкам не абмінуць! ***Алесь Раткевіч.***

### ФК "Маладзечна-2013" ліквідуецца. На рэспубліканскіх спаборніцтвах горад прадставіць каманда ДЮСШ-4

"Аляксандр Кавалёў падкрэсліў, што ў склад каманды ўвойдуць выхаванцы ДЮСШ №4, мясцовыя футбалісты. – Мы маркуем, што дзякуючы гэтаму балельшчыкі вернуцца на стадыён". Не ўпэўнены. На стадыён заўзятараў могуць вярнуць прыгожая гульня і выдатныя вынікі! А без добрага фінасавання добрыя вынікі амаль немагчымыя. Я, як аматар, стаміўся чакаць вынікаў і назіраць як клуб/каманда пад рознымі назвамі боўтаецца ў дрыгве другой лігі. Раней вынік быў, я не спрачаюся. Але ён быў за кошт гульцоў з досведам – Дараховіча, Макрыцкага, Вышынскага, Альховіка, Касцюка, Дразда і г.д. і перспектыўнай моладзі – Корсака, Космача, Нарожніка, Камінскага, Бугая (прашу прабачэння ў хлопцаў, якіх не ўзгадаў). Наведаў у мінулым сезоне адну гульню ДЮСШ з Любанню. На мой погляд, ДЮСШ не надта мацнейшая (калі ўвогуле мацнейшая) за ФСК "Маладзечна-2013". Але ўсё роўна буду наведваць гульні мясцовага клуба. Поспехаў у надыходзячым сезоне!.. І паглядзім, што атрымаецца. З.Ы. Каб крыху грошай мясцовага хакейнага клуба "Дынама" дый у наш футбол... Мары... Мары... ***Балельшчык.***

## Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка"

"**Спячая прыгажуня**" (казкасон), *В.Мятальнікаў*

18 студзеня – у 12:00

Чакаем вас, шаноўныя гледачы, у нашым тэатры па адрасе: *Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.*

Тэл. (8-0176) **75-36-73**, **76-84-27**. УНП 600136804

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 5 | | | | 6 | | |
| 8 | | | | | | | 7 | |
| 3 | | | | | 6 | 9 | 2 | |
| 9 | | | 8 | | 7 | 5 | | |
| | | | | 2 | | | | |
| | | 7 | 1 | | 9 | | | 8 |
| | 6 | 1 | 3 | | | | | 9 |
| | 4 | | | | | | | 7 |
| | | 3 | | | | 4 | | |



Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

## РЭПЕРТУАРЫ

## Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна



*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Анімацыйныя прыгоды "**Снежная каралева 2: Перазамарозка**", 3D (Расія, 2014, без узроставых абмежаванняў)
17 студзеня – у 12:30
Цана білета: 30 000 рублёў

Анімацыйная камедыя "**Тры багатыры: Ход канём**", 3D (Расія, 2014, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
16 студзеня – у 17:30
18 студзеня – у 12:00
Цана білета: 55 000 рублёў

Фэнтэзі, прыгоды, сямейны "**Сёмы сын**", 3D (ЗША, Канада, Вялікабрытанія, 2014, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
16 студзеня – у 19:30
17 студзеня – у 14:30
18 студзеня – у 14:00
19 студзеня – у 21:00
21 студзеня – у 18:30
Цана білета: 55 000 рублёў

Гістарычная драма "**Зыход: Цары і багі**", 3D (ЗША, Іспанія, Вялікабрытанія, 2014, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
17 студзеня – у 19:00
18 студзеня – у 21:00
20 студзеня – у 18:00
Цана білета: 55 000 рублёў

Камедыя "**8 новых спатканняў**" (Расія, 2014, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
16, 17 студзеня – у 22:00 (цана білета: 50 000 рублёў)
18, 19, 22 студзеня – у 19:00
20, 21 студзеня – у 21:00 (цана білета: 45 000 рублёў)

Навагодняя камедыя, драма "**Ёлкі 1914**" (Расія, 2014, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
18 студзеня – у 16:30
Цана білета: 45 000 рублёў

Прэм'ера! Камедыя, сямейны "**Прыгоды Падынгтона**" (Францыя, Вялікабрытанія, 2014, без узроставых абмежаванняў)
22 студзеня – у 17:00
Цана білета: 25 000 рублёў

Прэм'ера! Фэнтэзі, камедыя, сямейны "**Ноч у музеі: Сакрэт грабніцы**" (ЗША, Вялікабрытанія, 2014, без узроставых абмежаванняў)
22 студзеня – у 21:00
Цана білета: 45 000 рублёў

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Анімацыя "**Індыкі: Назад у будучыню**" (Італія, 2014, без узроставых абмежаванняў)
17, 18 студзеня – у 15:30 і 17:30
Цана білета: 20 000 рублёў

Прыгоды "**Цімур і каманда**" (Беларусь, 2014, без узроставых абмежаванняў)
16 студзеня – у 17:00
Цана білета: 12 000 рублёў

Баявік "**Тры дні на забойства**" (ЗША, 2014, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
16, 17, 19, 21 студзеня – у 21:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Драма "**Трэба жыць**" (Беларусь, 2014, пасля 16 год)
17, 18, 20, 22 студзеня – у 19:30
Цана білета: 20 000 рублёў

Камедыя "**Танцуй адсюль**" (Вялікабрытанія, 2014, пасля 16 год)
16 студзеня – у 19:00
18, 20, 22 студзеня – у 21:30
21 студзеня – у 19:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Тэл. : **8(0176) 77-15-92, 77-06-30**

## Кінатэатр "Мір", Вілейка

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Драма "**Я не вярнуся**" (Беларусь, дзецям да 14 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
16, 18, 21 студзеня – у 18:00
17, 22 студзеня – у 17:30
Цана білета – 35 000 рублёў

Трылер "**Сігнал**" (ЗША, з 16 год)
16, 17 студзеня – у 20:00
18 студзеня – у 20:30
Цана білета – 35 000 рублёў

Анімацыя "**Рыф**" (Паўднёвая Карэя, дзецям да 12 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
17 студзеня – у 15:00
Цана білета – 15 000 рублёў

Камедыя "**Прыгоды маленькіх італьянцаў**" (ЗША, дзецям да 12 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
18 студзеня – у 14:30
Цана білета – 12 000 рублёў

Баявік "**13 раён: Цагляныя асабнякі**" (Францыя, з 16 год)
21, 22 студзеня – у 20:30
Цана білета – 35 000 рублёў

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Фэнтэзі, прыгоды "**Хобіт: Бітва пяці войскаў**" (3D, ЗША, дзецям да 14 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
16 студзеня – у 17:30
Цана білета – 55 000 рублёў

Камедыя "**8 новых спатканняў**" (2D, Расія, з 16 год)
16, 18, 21 студзеня – у 20:00
17 студзеня – у 18:00
Цана білета – 45 000 рублёў

Анімацыя, прыгоды "**Снежная каралева-2: Перазамарозка**" (3D, Расія, без узроставых абмежаванняў)
17 студзеня – у 14:00
Цана білета – 25 000 рублёў

Анімацыя, камедыя "**Астэрыкс: Зямля багоў**" (3D, Францыя, без узроставых абмежаванняў)
18 студзеня – у 14:00
Цана білета – 25 000 рублёў

Навагодняя камедыя "**Ёлкі 1914**" (2D, Расія, дзецям да 12 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
17 студзеня – у 15:30
Цана білета – 35 000 рублёў
21 студзеня – у 17:30
Цана білета – 45 000 рублёў

Драма "**Зыход: Цары і багі**" (3D, Вялікабрытанія, ЗША, Іспанія, дзецям да 14 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
17 студзеня – у 20:30
18 студзеня – у 17:30
Цана білета – 55 000 рублёў

Анімацыя, камедыя "**Тры багатыры: Ход канём**" (3D, Расія, дзецям да 12 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
18 студзеня – у 16:00
Цана білета – 45 000 рублёў

Камедыя, сямейны "**Прыгоды Падынгтона**" (2D, Вялікабрытанія, Францыя без узроставых абмежаванняў)
22 студзеня – у 18:00
Цана білета – 25 000 рублёў

Фэнтэзі, камедыя, сямейны "**Ноч у музеі: Сакрэт грабніцы**" (2D, ЗША, Вялікабрытанія, дзецям да 12 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
22 студзеня – у 18:00
Цана білета – 45 000 руб.

Тэл.: **8(01771) 5-68-59.**

## Мінскі абласны драматычны тэатр

*РАНІШНІЯ СПЕКТАКЛІ*

"**Хітрыкі мадам завірухі**" (музычная казка), *Людміла Вайнова*
20 студзеня – у 11:00

ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ

ПРЭМ'ЕРА. "**Вакзал на траіх**" (трагікамедыя ў 2-х частках), *Ігар Балабко*
16 студзеня – у 19:00

"**Камедыя**" (камедыя ў 2-х дзеях паводле твораў К.Марашэўскага, Ф.Аляхновіча), *Уладзімір Рудаў*
20 студзеня – у 19:00

ПРЭМ'ЕРА. "**Аблом OFF**" (лірычная камедыя ў 2-х дзеях), *Міхаіл Угараў*
21 студзеня – у 19:00

Тэатр мае права на замену спектакляў.
*Маладзечна, вуліца Чкалава, 7*
Тэл. для даведак:
**75-24-17** (каса),
**76-17-32** (галоўны адміністратар),
**75-29-16** (намеснік дырэктара).
E-mail: modt@tyt.by, http://theatre-modt.by/
УНП 600066659

## ГАРАСКОП 16-22 СТУДЗЕНЯ

**Авен.** Вялікія перамены ва ўласным жыцці. Устрымайцеся ад неабдуманых высноў і паспешных рашэнняў. Сачыце за тым, каб вашы жаданні не ішлі ўразрэз з агульнасямейнымі мэтамі.

**Цялец.** Не ўлазьце ў рызыкоўныя мерапрыемствы ў надзеі хутка разбагацець. Лепш падумайце, як распарадзіцца тымі грашмі, што ў вас ёсць.

**Блізняты.** Беражыце сябе. Не адпраўляйцеся ў доўгія паездкі, калі стаміліся ці не выспаліся.

**Рак.** Вы ўмееце здзіўляць навакольных. Фантазія з вас б'е ключом. Але адкладзіце справы і пабудзьце з блізкімі. Не сакрэт, што работу трэба чаргаваць з адпачынкам. Бывае, справы могуць і пачакаць, а вось каханых прымушаць чакаць нельга.

**Леў.** Зоркі даюць параду дзейнічаць па формуле: "Часцей карыстайся вушамі, чым языком". Скарыстаўшыся гэтай парадай, вам будзе над чым падумаць.

**Дзева.** Будзьце цярплівыя і стрыманыя ва ўласных адносінах, бо спрэчкі і ўзаемныя крыўды адаб'юцца на іх не лепшым чынам. Сканцэнтруйцеся на вырашэнні практычных пытанняў – гэта выдатны спосаб забыць пра рознагалоссі.

**Шалі.** Памятайце, дапамагчы сабе вы зможаце толькі самі.

**Скарпіён.** Паб пазбегнуць праблем, сканцэнтруйцеся на тым, што вельмі важна. Аддаляйце галоўнае ад другаснага. Работа запатрабуе вялікіх намаганняў і нестандартных рашэнняў, але вынік таго варты. У сям'і больш давярайце адно аднаму.

**Стралец.** Вядзіце сябе разважліва. Прычына нестабільнасці ў адносінах хаваецца ў вашых паводзінах – вы то дабрадушныя і ўступчывыя, то раздражняльныя і ўпартыя. Вам трэба навесці парадак у думках.

**Казярог.** Шчырасць здольная тварыць цуды. Яна – чарадзейны ключ да людскіх сэрцаў і душ.

**Вадалей.** Вам трэба знайсці час для арганізацыі якой-небудзь сяброўскай вечарынкі. Добра схадзіць кампаніяй у кіно, тэатр, на выставу. І пазітыўныя эмоцыі гарантаваныя.

**Рыбы.** Вам можна брацца за складаныя справы. Зоркі запэўніваюць, што вы ва ўсім даб'яцеся поспеху. Памятайце, што ваша зброя ў барацьбе з чымсьці негатыўным – спакой.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991-7155



**Рэгіянальная газета.** Rh.by
Тэлетыдзень 27

## НАДВОР'Е

**17 студзеня, субота**

| | Пятніца | Субота | Нядзеля | Панядзелак |
|---|---|---|---|---|
| Мінск | -1 / +2; 740; ↗ 8 | -1 / +2; 738; ↗ 6 | +1 / +2; 740; ← 5 | 0 / +1; 733; ↖ 3 |
| Вільня | 0 / +2; 747; ↑ 7 | +1 / +3; 746; ↑ 2 | +1 / +1; 750; ↙ 5 | -1 / -1; 743; ↙ 4 |

Тэмпература паветра, Воблачнасць ападкі; Ціск (мм рт. сл.), Хуткасць ветра м/с; Усход, захад па Маладзечне

Усход 9.22
Захад 17.23
Даўжыня дня 8.01

Усход 5.53
Захад 14.36
Квадра 4




## ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я Ў РЭГІЁНЕ

**Ашмяны**

- Мінімальная тэмпература -25,9 °C у 1987 годзе
- Максімальная тэмпература +7,3 °C у 1993 годзе
- Максімальная колькасць ападкаў 8,5 мм у 2000 годзе

Назіранні за 37 год. Паводле meteoinfo.by

## ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ

# Што б вы ратавалі ў першую чаргу на пажары?



**Валянцін Карас, пенсіянер:**

– Ой, не дай бог пажару. Канешне, у першую чаргу ратаваў бы дакументы. Ну і грошы, пры ўмове, калі яны ёсць.



**Галіна Пашкова, пенсіянерка:**

– Сябе б ратавала ў першую чаргу. Ну і дакументы, калі б успомніла пра іх.



**Таццяна Самойленка, сацыяльны работнік:**

– Дзіця б сваё ратавала, я ж мама. Хаця, як толькі ўяўлю такую сітуацыю, адразу ж бачу, як я ўцякаю. У адной руцэ дзіця, у другой – мама. І сабачка ззаду. А як інакшай?



**Наталля Барткевіч, асістэнт рэжысёра:**

– Калі ў нас у доме быў выпадак, што на капцільню падумалі, што гэта выбухоўка, то эвакуявалі ўвесь дом. Тады не падумалі нават пра цёплае адзенне, не кажучы ўжо пра дакументы, грошы ці нешта іншае. Таму жадаю ўсім, каб нічога такога ў вас ніколі не здаралася.



**Вікторыя Сівец, аператар службы 102:**

– У першую чаргу ратавала б сябе. Гэта пры ўмове, што дома была б адна. А калі нехта з родных быў бы дома, ратавала б іх. А матэрыяльныя каштоўнасці, золата, брыльянты ратавала б у апошнюю чаргу. Хаця не. Золата таксама б ратавала.



**Дзмітры Яхімовіч, навучэнец:**

– Я адразу б папярэдзіў усіх суседзяў, што ў доме пажар. А потым бы ратаваліся разам.



**Уладзімір Коцікаў, дальнабойшчык:**

– Дзяцей у першую чаргу. Гэта самае важнае, што ёсць у жыцці.

**Падрыхтавала Наталля ТУР.**

**19 студзеня – Дзень выратавальніка. Пра будні выратавальніц чытайце на старонцы 21.**

## Чытайце праз тыдзень:

- **Якія нечаканасці, кур'ёзныя або небяспечныя, могуць падсцерагаць на лёдзе аматараў зімовай рыбалкі? Чытайце ў наступным нумары "РГ" успаміны і прызнанні рыбакоў.**

## АДЗІН МОМАНТ З ЖЫЦЦЯ МАЛАДЗЕЧНА



Фота vk.com

**Абаронца каманды "Дынама-Маладзечна" Багдан Зазон зрабіў прапанову рукі і сэрца сваёй дзяўчыне перад матчам з маскоўскім "Дынама". Прапанову Багдан зрабіў перад 15 тысячамі гледачоў на "Мінск-Арэне". Дзяўчына адказала згодай, – піша суполка ХК "Дынама-Маладзечна" "Укантакце".**



Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№ 3 (1029) 16.01.2015. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59а.
Ліцэнзія ЛП №02330/19 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 54. Падпісана ў друк у 9.00 15.01.2015.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі РБ.